Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

# ЛіМ

Літаратура і мастацтва

ISSN 0024-4686

№ 28 (4828) 17 ліпеня 2015 г.

## Пункціпрам

✔ Дні культуры Беларусі ў Малдове пройдуць у канцы верасня — пачатку кастрычніка гэтага года, адзначыў намеснік Прэм'ер-міністра Беларусі Міхаіл Русы па выніках праведзенага ў Мінску пасяджэння міжурадавай беларуска-малдаўскай камісіі па гандлёва-эканамічным супрацоўніцтве. Пасяджэнне міжурадавай камісіі прайшло перад афіцыйным візітам у Беларусь Прэзідэнта Малдовы Мікалая Цімофці, які пачаўся ўчора.

✔ Беларуская паштовая марка «Слуцкія паясы» заняла 6-е месца на міжнародным конкурсе «Вялікі прыз выстаўкі WIPA» ў Аўстрыі і ўвайшла ў дзясятку лепшых у свеце. РУП «Белпошта» ўдзельнічае ў гэтым спаборніцтве штогод.

✔ Выстаўка рэпрадукцый Івана Хруцкага, арганізаваная Пасольствам Беларусі ў Бразіліі пры падтрымцы ўрада штата Гаяс, адкрылася ў будынку муніцыпалітэта штата ў горадзе Гаянія. У экспазіцыі прадстаўлена 15 лепшых работ беларускага мастака-партрэтыста, майстра нацюрморта і пейзажа. Выстаўка суправаджаецца паказам нацыянальных касцюмаў.

✔ У Музеі гісторыі беларускага кіно праходзіць выстаўка «Беларускі кінематограф 20-х — 30-х гадоў ХХ стагоддзя ў кінаплакаце», на якой прадстаўлена 35 поўнафарматных рэпрынтаў маляваных кінаплакатаў. Кінастужкі, да якіх ствараліся гэтыя работы, былі зняты на «Беларусьфільме» ў савецкія часы. Самы ранні плакат — «Лясная быль» — датуецца 1926 годам.

✔ Гродзенскі абласны тэатр лялек прадставіў прэм'ерную трагікамедыю «Візіт старой дамы». У яе аснове — п'еса швейцарскага драматурга Фрыдрыха Дзюрэнмата. Прэм'еру ставіў галоўны рэжысёр Беларускага дзяржаўнага тэатра лялек Аляксей Ляляўскі, якога спецыяльна запрасілі для гэтай пастаноўкі.

✔ У Нясвіжскім замку з'явіліся аўдыягіды на кітайскай мове. Нясвіж карыстаецца ўсё большай папулярнасцю сярод гасцей з Паднябеснай. Акрамя таго, тут даступныя аўдыягіды на беларускай, рускай, польскай, англійскай і нямецкай мовах.

✔ У філіяле Брэсцкага абласнога краязнаўчага музея — Мастацкім музеі, які размяшчаецца ў Паўднёвых казармах Брэсцкай крэпасці, — адбудзецца цыкл канцэртаў класічнай музыкі. Месца правядзення выбрана невыпадкова: высокія скляпенні старадаўніх будынкаў, пабудаваных у XIX стагоддзі, ствараюць непаўторную акустыку.

✔ Музей каменных скульптур пад адкрытым небам з'явіцца ў Гродне ў Каложскім парку, непадалёк ад Барысаглебскай царквы. Раней тут усталявалі каменную кампазіцыю Уладзіміра Панцялеева «Песня пра Каложу», а літаральна на днях да яе дадалі яшчэ 8 скульптур, створаных беларускімі аўтарамі летась падчас пленэра «Гродна. Мінулае і сучаснасць».

ISSN 0024-4686






Фота БелТА.

*Парад маладзёжных субкультур «Беларусь у сэрцы маім!» падчас Дня моладзі XXIV Міжнароднага фестывалю мастацтваў «Славянскі базар у Віцебску».*

# Галактыка «Славянскага базару»

**Папуры сусветных хітоў, непаўторны зорны ансамбль, захапляльнае вулічнае мастацтва — у Віцебску адгрымеў легендарны фестываль!**

### МУЗЫЧНЫ КАЛЕЙДАСКОП

За гады правядзення Міжнароднага фестывалю мастацтваў «Славянскі базар у Віцебску» галоўная канцэртная пляцоўка форуму ні разу не паўтарылася ў сваім мастацкім афармленні. І на гэты раз сцэна Летняга амфітэатра паўстала ў новым вобразе. Эксклюзіўнае рашэнне сцэнічнай прасторы прапанаваў уладальнік Расійскай нацыянальнай тэлевізійнай прэміі «Тэфі» маскоўскі мастак-сцэнограф Аляксандр Халадонаў, вядомы па праектах «Залаты грамафон», «Песня года», «Новая хваля». У гэтым годзе цэнтральная фестывальная пляцоўка ператварылася ва ўрачыстую залу з калонамі і велічнымі люстрамі.

Канцэпцыя сёлетняга фэсту — касмічнае падарожжа па музычнай галактыцы «Славянскага базару ў Віцебску». Абнавіўся і лагатып фестывалю — валошка. Яе дапоўнілі рознакаляровыя, аздобленыя сеткай неонавых прамянёў, крышталі, якія сімвалізуюць разнастайнасць культур.

Урачыстае адкрыццё XXIV Міжнароднага фестывалю мастацтваў адбылося 9 ліпеня. Як звычайна, у канцэрце брали ўдзел артысты першай велічыні. Афіцыйнасць мерапрыемства падкрэслілі дамінуючыя тэмы 70-годдзя Вялікай Перамогі і Года моладзі.

«Амаль чвэрць стагоддзя «Славянскі базар» збірае артыстаў і прыхільнікаў у нашай культурнай сталіцы. Для яго быў абраны цудоўны дэвіз: «Праз мастацтва — да міру і ўзаемаразумення», ён аказаўся вельмі актуальным і ў нашы дні», — адзначыў Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка ў відэапрывітанні гасцям і ўдзельнікам XXIV Міжнароднага фестывалю мастацтваў «Славянскі базар у Віцебску». Кіраўнік дзяржавы падкрэсліў, што Беларусь па праве стала пляцоўкай для мірных ініцыятыў, праваднікам ідэй добрасуседства і супрацоўніцтва. Гэта датычыцца не толькі знешняй палітыкі, але і духоўнай сферы. Мастацтва аб'ядноўвае людзей, не ведаючы межаў, і ўяўляе сабой эфектыўную форму народнай дыпламатыі.

### ПАРАД КАНЦЭРТАЎ

Канцэртная праграма фестывалю фестываляў, які сёлета сабраў ажно 42 краіны-ўдзельніцы, прынесла жыхарам і гасцям Віцебска велізарнае мора эмоцый, шчасце сустрэч з сапраўдным мастацтвам.

Чытайце на стар. 16

*У Саюзе пісьменнікаў Беларусі*

# Кіно са Славакіі

**Днямі ў сталічны Дом літаратара завіталі славацкі акцёр, рэжысёр, грамадскі дзеяч Мілан Княжко і Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Славакіі ў Беларусі Міраслаў Мойжыта.**

Публіка (пераважна сябры Саюза пісьменнікаў Беларусі) паглядзела кінастужкі «Папілія» (1986) і «Верныя галубы вяртаюцца» (1989). Галоўны герой першай, па мянушцы Граф (яго вобраз і ўвасобіў Мілан Княжко), уцягвае ў сваю злачынную — больш за тое, правакацыйную! — дзейнасць маладога калегу Францішка Чэпека, планы якога руйнуе Другая сусветная вайна.

Пад чужым уплывам наіўны і недасведчаны Францішак страчвае правільны жыццёвы курс, а ўсё таму, што нарадзіўся «не да часу і не да месца»... Развязка трагічная: Францішак помсціць Графу — забівае свайго «настаўніка». Але ў той жа час фінал фільма застаецца адкрытым: як жа склаўся далейшы лёс хлопца, ці знайшоў ён сябе?..

Стужка «Верныя галубы вяртаюцца» пераносіць гледача ў апошнія гады сацыялізму ў Чэхаславакіі. Галоўны герой, Мілаш Лекса (і зноў у галоўнай ролі — Мілан Княжко), вырашае пазбавіцца алкагалізму і звяртаецца ў лякарню, дзе сутыкаецца з жорсткім галоўным санітарам і яго памочнікамі. Пасля сыходзіцца з колішняй аднакласніцай Соняй Ландавай, якая стала паспяховай опернай спявачкай (Мілаш працуе апальшчыкам у тым жа тэатры) і вырашае прысвяціць сябе літаратурнай дзейнасці. Праз некаторы час з пісьменніцтвам нібыта завязвае, але вяртаецца да сваіх дзённікавых запісаў. Мілаш знаходзіцца на стадыі выбару жыццёвага вектара, але ці здолее прыняць правільнае рашэнне?.. Зноў — адкрыты фінал.

Мілан Княжко вывучаў драматычнае мастацтва ў Акадэміі выканальніцкіх мастацтваў у Браціславе. У кіно дэбютаваў у 1965-м. Шмат гадоў аддаў славацкай тэатральнай сцэне. Стажыраваўся ў Францыі. Здымаўся ў Балгарыі і СССР. Заслужаны артыст Чэхаславакіі (1989). Яго акцёрскае майстэрства не выклікае сумніву: праз канфлікт свайго героя з грамадствам і самім сабою, праз мастацтва супрацьстаяння спадар Мілан выходзіць на непасрэдны кантакт з гледачом.

Мілан Княжко вядомы не толькі як акцёр, але і як палітычны дзеяч: быў саветнікам апошняга прэзідэнта Чэхаславакіі і першага прэзідэнта Чэхіі Вацлава Гавела, працаваў у Кабінеце міністраў Чэхаславакіі, быў намеснікам міністра замежных спраў Славакіі. З 1998 па 2002 год — міністр культуры Славацкай Рэспублікі.



*Фота Ганны Бізунковай.*

*Падчас сустрэчы ў Доме літаратара. Другі злева — Мілан Княжко, трэці злева — Міраслаў Мойжыта.*

Падчас сустрэчы слова бралі сакратар СПБ Георгій Марчук, старшыня Мінскага гарадскога аддзялення СПБ Міхась Пазнякоў, дырэктар выдавецтва «Чатыры чвэрці» Ліліяна Анцух, драматург Анатоль Дзялендзік ды іншыя творцы.

**Яна ЯВІЧ**

# Пішуць маладыя гамяльчане



*Выданне «Літаратурная Гомельшчына. Творчасць маладых: славянскі вянок».*

Нядаўна з друку выйшаў дзявяты выпуск альманаха Гомельскага абласнога аддзялення СПБ «Літаратурная Гомельшчына». Аднак у новым выпуску практычна няма твораў сяброў пісьменніцкай арганізацыі: згодна з рашэннем Савета аддзялення, гэты нумар аддадзены маладым аўтарам з Гомеля і Гомельскай вобласці.

Пачаткоўцы былі заўважаны і падтрыманы старэйшымі калегамі з Саюза пісьменнікаў Беларусі падчас творчых семінараў і вечарын. Некаторыя з маладых суаўтараў альманаха, сярод якіх ёсць і лаўрэаты абласных ды рэспубліканскіх літаратурных конкурсаў, наведваюць аматарскія літаратурныя аб'яднанні вобласці. Чытачу прадстаўлена лепшае з напісанага творчай моладдзю Гомельшчыны.

— Пад адной вокладкай было вырашана змясціць і творы маладых аўтараў з Расіі і Украіны, — распавядае рэдактар выдання, старшыня Гомельскага абласнога аддзялення СПБ Уладзімір Гаўрыловіч. — У новым выпуску прадстаўлены аўтары з Масквы, Бранска, Краснадара, Рыльска, Курска, Сумаў ды іншых расійскіх і ўкраінскіх гарадоў і рэгіёнаў. Атрымаўся даволі моцны зборнік маладой славянскай літаратуры. Прыемна, што ён выходзіць на шырокія прасторы ў Год моладзі ў Беларусі, Год літаратуры ў Расіі і, перакананы, будзе яшчэ адным важкім унёскам у справу захавання адзінства славянскіх народаў.

Адна з важных тэм 230 старонак альманаха — 70-годдзе Перамогі ў Вялікай Айчыннай. Гэта падзея — агульны здабытак народаў былога СССР. З асаблівым хваляваннем пачаткоўцы пішуць пра тое, што пачулі ад старэйшых родзічаў.

Члены Савета Гомельскага абласнога аддзялення СПБ перакананы: выданне яднае думкі і душы маладых творцаў Беларусі, Расіі і Украіны.

**Мікалай ІГНАТОВІЧ**

*Стасункі*

# Адзнака кітайскаму перакладчыку

**Медалём «За вялікі ўклад у літаратуру» Саюза пісьменнікаў Беларусі ўганараваны кітайскі перакладчык Гаа Ман.**

Узнагарода далёка не выпадковая. Гаа Ман, які нарадзіўся ў 1926 годзе ў Харбіне, здаўна прывязаны да славянскіх літаратур. І поруч з перакладамі рускай і ўкраінскай паэзіі, прозы, публіцыстыкі ён працаваў над пераўвасабленнем на сваю родную мову і беларускага прыгожага пісьменства. Яшчэ ў 1958 годзе Гаа Ман разам з Гэ Баацюанем пераклаў на кітайскую мову зборнік паэзіі Максіма Танка.

І цяпер, нягледзячы на паважаны ўзрост, перакладчык уважлівы да беларускага мастацкага свету. У госці да яго ў Пекін завітваюць беларускія літаратары, журналісты. А параўнальна нядаўна Гаа Ман выступіў у газеце «Жэньмінь жыбаа» з артыкулам пра беларуска-кітайскія літаратурныя сувязі. Застаецца нагадаць, што перакладчык — яшчэ і аўтар графічных партрэтаў беларускіх пісьменнікаў Янкі Купалы, Якуба Коласа, Максіма Танка, Алеся Адамовіча, Навума Гальпяровіча і інш.

**Кастусь ЛЕШНІЦА**

# Сюжэты для габеленаў

**Персанальная выстаўка Святланы Баранкоўскай «Rad№0» адкрылася ў сталічным Палацы мастацтва — у Рэспубліканскай мастацкай галерэі Беларускага саюза мастакоў.**

Святлана Баранкоўская распрацавала праграму па прадмеце «Гісторыя мастацтва і архітэктуры Беларусі», была рэцэнзентам праграмы «Гісторыя мастацтва і архітэктуры Беларусі» для сярэдніх спецыяльных навучальных устаноў па спецыяльнасці «Архітэктура». З 1992 г. удзельнічала ў гарадскіх, рэспубліканскіх і міжнародных выстаўках (Масква, Даўгаўпілс, Смаленск, Франкфурт-на-Одэры, Гданьск, Беласток, Рэбург, Гарш, Гайнаўка, Талін, Мінск). Мастацкія працы выстаўляліся ў абласных цэнтрах Беларусі.

На творчым рахунку С. Баранкоўскай — 20 персанальных выставак. У 1998 годзе атрымала дыплом ІІ ступені на рэспубліканскай выстаўцы «Новыя імёны», а ў 2011-м, у першым біенале «Квадратны метр — свая прастора» (г. Масква), — дыплом за лепшую работу, выкананую ў традыцыйнай тэхніцы габелена ў намінацыі «Паэтыка вобраза». Асобныя габелены захоўваюцца ў прыватных калекцыях Германіі, Польшчы, Латвіі, Расіі, Ізраіля, Нарвегіі, Францыі, Бельгіі, Англіі, Іспаніі, Турцыі, Украіны. З 2003 г. — сябра БСМ, з 2013-га — старшыня Віцебскай абласной арганізацыі БСМ.

Радно — грубае палатно хатняй вытворчасці, пачынаецца з асновы і радка, які ставарае нізку палатна — прамень новага твора. А любы габелен заўсёды пачынаецца нулявым радком. «Rad№0», «рад нумар зэро», — гэта і ёсць той самы яшчэ не пракладзены нулявы радок, які ў марах пакуль не стаў нават эскізам… Метафізічны нуль у шэрагу сімвалічных лічбаў — абазначэнне Першапачатковай Пустэчы, адкуль вынікае свет з'яў.

Выстаўка «Rad№0» — сапраўдная магія сэнсаў і літар, радкоў і палотнаў. «Rad№0» — тое роднае, што надае моцы жыць здабыткамі продкаў, радзіма, нараджэнне… «Rad№0» — не справаздача аб зробленым і дасягнутым. Гэта новыя думкі пра вечнае.

**Яна ЯВІЧ**

Імпрэзы

# «Душы зняверыцца не дам»

**Творчая сустрэча з пісьменнікам, старшынёй Мінскага гарадскога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі Міхасём Пазняковым, што адбылася ў Цэнтральнай гарадской бібліятэцы імя Янкі Купалы, сабрала вялікую аўдыторыю. Завіталі прыхільнікі беларускага паэтычнага слова, сябры Міхася Паўлавіча, калегі па творчай суполцы, супрацоўнікі іншых бібліятэк.**

Калегі шануюць Міхася Пазнякова за ўвагу да людзей, спагаду, шчырасць, памяркоўнасць. Яго бацькоў паяднала гора: тата быў камісаваны з фронту ў 1944 годзе, каб выхоўваць траіх дзетак пасля смерці першай жонкі ад тыфу. Маці будучага паэта таксама засталася ўдавой з двума малымі...

Вайна ў лёсе бацькоў адгукаецца і ў творчасці паэта. Угодкам свята Перамогі прысвечаны верш, якім пачаўся расповед пра асабістае. З вялікай цеплынёю Міхась Паўлавіч прыгадвае бацькоўскую зямлю, дзе асабліва хараша пішацца.

*Бярозамі, рамонкамі, валошкамі*
*Прарос у сэрцы мой радзімы край…*

У другім вершы прызнаецца: да роднай старонкі «сцяжынка бяжыць артэрыяй праз сэрца».

Тэма Радзімы — галоўная для паэта. У творчай скарбонцы М. Пазнякова шмат патрыятычных вершаў, годна ацэненых суайчыннікамі. Міхась Паўлавіч — тройчы лаўрэат прэміі Міністэрства абароны Беларусі.

З цікавасцю слухалі прысутныя пра духоўных настаўнікаў творцы — Кандрата Крапіву, Івана Шамякіна. Узгадваючы Кандрата Кандратавіча, паэт прызнаўся: менавіта знаёмства з ім пераканала, што мудрасць — гэта простасць, талент — гэта шчырасць ды сціпласць. І. Шамякіну ўдзячны за ісціну, што чалавек павінен вучыцца ўсё жыццё. Запалі ў сэрца і словы К. Крапівы: «Літаратура павінна абудзіць у чалавеку пачуццё прыгожага».

Цудоўныя лірычныя вершы прагучалі ў стужцы «Тварыце, людзі, на зямлі дабро», прысвечанай М. Пазнякову. Яго радкі, перакладзеныя на рускую мову, дэкламавалі галоўны рэдактар часопіса «Новая Немига литературная» Анатоль Аўруцін і паэтэса Валянціна Паліканіна, песні на словы паэта выканалі кампазітар Алег Чыркун, бард Дзмітрый Пятровіч — нават дуэтам з аўтарам верша. Скарыла мелодыя, створаная да верша Міхася Паўлавіча і выкананая кампазітарам Іванам Раманчуком. Яго творы па-майстэрску прадставілі артысты Белдзяржфілармоніі, лаўрэаты міжнародных прэмій Галіна Сакольнік і Арцём Шаплыка. Добрыя словы ў адрас творцы прагучалі з вуснаў паэтаў Вадзіма Спрынчана, Аліны Легастаевай, Вольгі Шпакевіч.

Удзельнікі імпрэзы мелі магчымасць набыць кнігі Міхася Пазнякова, у тым ліку і зборнік «Спявае жыта», што пабачыў свет у выдавецтве «Мастацкая літаратура».

**Паліна ЯРЦАВА**

Акцыі

# Чытаем летам!

У межах рэспубліканскай акцыі «Лета з добрай кнігай» у сталічнай дзіцячай бібліятэцы № 4 адбылася творчая сустрэча з пісьменнікам, лаўрэатам розных літаратурных прэмій Уладзімірам Мазго.

На імпрэзу сабраліся вучні і настаўнікі пачатковых класаў СШ № 30, 90 і 168 Кастрычніцкага раёна г. Мінска. У чытальнай зале разгарнулася выстаўка кніг, напісаных аўтарам за трыццаць гадоў творчай дзейнасці.

На сустрэчу з юнымі чытачамі пісьменнік прыйшоў не адзін, а разам з новай кнігай «Завітала ў госці казка», што пабачыла свет у выдавецтве «Мастацкая літаратура». Уладзімір Мазго расказаў пра гісторыю стварэння кнігі, пазнаёміў з асобнымі творамі.

З цікавасцю школьнікі слухалі казкі, прамаўлялі следам за аўтарам скорагаворкі, адгадвалі загадкі, спявалі песні. Самыя актыўныя юныя чытачы атрымалі прызы, а бібліятэка — аўтографы на кнігах пісьменніка.

**Алесь СМАЛЕНСКІ**

Скончылася акцыя, якая давала магчымасць убачыць уласнае прозвішча на старонках «ЛіМа», — для гэтага трэба было выпісаць выданне на II паўгоддзе і даслаць на адрас рэдакцыі падпісны квіток. Да акцыі яшчэ паспела далучыцца Тамара Каляда з г. Узды.

Вернісаж

# Рускі каларыт Версаля

**Выстаўка «Пастэль і акварэль рускіх мастакоў другой паловы XIX стагоддзя» праходзіць у Нацыянальным мастацкім музеі Рэспублікі Беларусь у межах праекта «Нашы калекцыі». Экспазіцыя ўключае каля 30 графічных твораў 20 аўтараў. Сярод іх — такія легендарныя асобы, як Ісаак Левітан, Барыс Кустодзіеў, Фёдар Ясноўскі, Іван Шышкін, Аляксандр Бенуа, Васіль Сурыкаў.**

Выразнасць колераў, эмацыянальнасць і рухомасць вобразаў, падобная да імпрэсіянізму, і разам з тым лёгкасць, паветранасць штрыхоў, светлая, ненавязлівая насычанасць — усё гэта характарызуе прадстаўленыя ў музеі працы.

Дарэчы, акварэль — адна з найбольш складаных тэхнік, бо аўтар не мае права на памылку: выправіць непрыгожыя плямы на такой карціне ў працэсе работы амаль немагчыма: колер страціць сваю празрыстасць, а палатно — чысціню. Вынік атрымаецца «брудным» і недакладным. Рускія мастакі захапіліся акварэллю менавіта ў XIX — пачатку XX стагоддзя. На гэтай хвалі ўзнікла «Таварыства рускіх акварэлістаў», пад кіраўніцтвам якога праходзілі шматлікія выстаўкі.



*Альберт Бенуа «Летні вечар». 1899 г.,*

Нягледзячы на агульную тэхніку, творчы почырк аўтараў экспазіцыі «Пастэль і акварэль рускіх мастакоў другой паловы XIX стагоддзя» абсалютна розны. Бачны пошук новых выразных сродкаў, імкненне да змешанай тэхнікі, калі акварэль пераклікаецца з гуашшу, пастэллю, вуглём, графітным алоўкам... Так, пейзажы Альберта Бенуа напісаныя з натуры шырокім мазком, а ў аснове твораў Васняцова больш матываў з людзьмі.

Калі ўважліва пазнаёміцца з усімі карцінамі, можна не толькі ўявіць галоўныя тэндэнцыі ў акварэльным мастацтве таго часу, але і адчуць атмасферу эпохі. Накіравацца, напрыклад, у вандроўку па дарэвалюцыйнай Расіі з яе краявідамі: убачыць Пушкіна ў Царскім Сяле, Пятроўскі палац і Маскоўскі Крэмль, а потым зазірнуць на французскі бульвар і падзівіцца вытанчанай прыгажосці Версаля. У некаторых карцінах пераважаюць мяккае перацяканне адценняў і музычнасць рытмаў, а ў іншых — больш дакладныя архітэктурныя лініі.

**Марыя ВОЙЦІК**

# Экскурс у мінуўшчыну

**Сем год таму перад педагагічным калектывам гімназіі № 35 г. Мінска паўстала пытанне: які музей стварыць для навучэнцаў, каб далучаць іх да народных традыцый, выхоўваць гонар за продкаў?**

І вось музей адкрыўся і атрымаў назву «Спадчына». Яго інтэр'ер нагадвае сялянскую хату XVIII стагоддзя. Больш як 300 экспанатаў размешчана па раздзелах: прадзенне і ткацтва, ганчарная справа, пляценне, вышыўка, кавальства і ліцце. Асаблівую цікавасць выклікаюць пляцёнкі з саломы, посуд з дрэва, кераміка. Рэдкі экспанат — гліняны гаршчок, створаны па тэхналогіі чорнага задымлення. Гэтаму ўнікальнаму вырабу вучань 9 класа Раман Чачыр прысвяціў навукова-даследчую працу «Беларуская кераміка: гісторыя экспаната этнаграфічнага музея "Спадчына"». Работа была высока ацэненая членамі журы падчас сёлетняй Мінскай гарадской навукова-практычнай канферэнцыі.

Акрамя гістарычных экспанатаў, у музеі ёсць куток, дзе сабраны лепшыя работы, выкананыя рукамі вучняў: карункі, сурвэткі, дарожкі, вырабы з гіпсу ў народным стылі настаўніцы малявання, народнага майстра Антаніны Маляўскай.

Гімназічны атрад «Мы — беларусы» займаецца даследчай і пошукавай працай, збіраючы адметнасці культурнага асяроддзя канкрэтнай мясцовасці.

У музеі праводзяцца экскурсіі, пазакласныя мерапрыемствы. Музейныя матэрыялы выкарыстоўваюцца на ўроках у якасці дапаможнікаў, на іх падставе рыхтуюцца даклады, навуковыя працы і паведамленні. Вучні старэйшых класаў самастойна праводзяць экскурсіі, напаўняюць іх змест новымі фактамі. Вучням малодшых класаў палюбіліся тэатралізаваныя экскурсіі «Запрашаем у хату беларускую», «Дзяды».

Напрыканцы зімы ў гімназіі ўрачыста адкрыўся літаратурны клуб «Спадчына», які працуе пры Мінскім гарадскім аддзяленні Саюза пісьменнікаў Беларусі пад кіраўніцтвам Міхася Пазнякова. Падчас імпрэзы навучэнцы чыталі ўласныя вершы, празаічныя творы.

**Наталля ЛОЙКА**



*Фрагмент экспазіцыі.*

## Наталля ГАЛАВАЧ



# З Бродскім у Венецыі

**Парафраз на тэмы**

Мае шпацыры з Бродскім па каналах
Венецыі самотнай і туманнай
Так значаць шмат. І значаць вельмі мала,
Бо сварыцца за нашы стрэчы мама.

Ёй замінае розніца ва ўзросце.
Ну што там нейкіх дваццаць год ці болей?
Затое супадаем мы па росце
І па сваёй заўсёднай празе волі…

Мне Одэна чытае ён і Фроста
У «Фларыяне». Піцу мы не елі.
Яшчэ плануем сёння да пагосту
Адправіцца на востраў Сан-Мікеле.

Праз гукі песні-ліры гандальера,
І крыкі-стогны чаек, шоргат качак,
І дух самога Дантэ Аліг'еры,
І звон касцёльны — плачам, плачам,
плачам…

Што ў свет сплывуць бясконцыя нябёсы
Такім невычарпальным мяккім цудам,
Што мы радкамі — вершамі ці прозай —
Гукаць аднекуль іх аднойчы будзем…

А мы ў пакутах цешым сябе казкай
Пра нейкага такога дабрадзея,
Жывём са спадзяваннямі на ласку
І давяраем лёсу ды надзеі…

Не ведае Венецыя марозу,
Ёй уласціва восеньская просінь.
Але я мерзну ў крушні на парозе,
І паліць, як заўжды, зашмат Іосіф.

# Калі…

Калі цябе я любіла
Была зіма
Было лета
Ды табой было не сагрэта
Тое нібы гарачае лета

Калі цябе я любіла
Знаёмымі ззялі вачыма
Зоры ў нябесных высі
І ночы здаваліся днямі

Калі цябе я любіла
Літары з гукамі пераплятаіся
Любіліся
Мілаваліся
Бурштынам блішчэлі на шыі
Нібы ў Панны Нясвіжа

Калі цябе я любіла
Думала я каралева
З каронай на галаве
І німбам святым празрыстым
Спякотаю і залевай

Калі цябе я любіла
Анёлы мяне цярпліва
Лятаць вучылі
І навучылі
О колішні час мой шчасны
О невымоўны
О немагчымы
Я ведаю ты не верыш
Калі гавару «калі»

# Летнім вечарам

Вечар ціхі палёгкай цнатлівай
Песціць моўчкі мае валасы.
Недзе ў лозах зялёных шчасліва
Птушак шчодрых звіняць галасы.

Не дзяўчынка, а веру ўсё ў казкі,
Што складаю раз-пораз сабе,
З непрыкметнае Божае ласкі
Яны цешаць у вечнай сяўбе.

Аздабляе, сыходзячы, ветах
Неба зорнага ціхую гладзь.
У азёрах купаецца лета,
Светлякамі лілеі глядзяць.



www.vokrugsveta.ru.

# «Лякрымоза»

Ноч маўчыць.
Паспагадаць не хоча.
Хвілі пульсам сэрца лічаць час.
На маўчанне гэтай шэрай ночы
У мяне рашучы ёсць адказ:
«Што маўчыш?
Азябла ад марозу?
І душа спагадай не пяе?»
І тады ж у руках «Лякрымозы»
Адшукаю знойку я яе.
Мілы Моцарт, мілы скрушны Моцарт,
Пасярод зімовае начы
Ты вярні мне зменлівую моцу,
Ты паплач, ды толькі не маўчы.
Моцарт у абутку летнім лёгкім
Крокамі адмервае тугу.
Вочы ў вочы,
І ужо з палёгкай
Дыхаю.
І жыць ужо магу.
А анёлы снегам белым-белым
У бясконцасць — моўчкі — за табой.
У душы, ад роспачы збалелай,
Гукі разліваюцца жальбой.
Не звяртай увагі ты на слёзы,
Што на твар завея намяла,
Я табе самотнай «Лякрымозай»
З нараджэння даўняга была.

## Дэбют

## Аксана ХАЦКЕВІЧ



Аксана Хацкевіч нарадзілася і жыве ў г. Дзяржынску Мінскай вобласці. Скончыла філалагічны факультэт БДУ. Працуе ў дзяржынскай гімназіі настаўнікам беларускай мовы і літаратуры. Удзельніца семінара маладых паэтаў Міншчыны «Слова Купалы да творчасці кліча» (2005). Піша вершы і песні. Аўтар паэтычнага зборніка «Беларуская валошка» (2014).

# Што наша споведзь?

Што наша споведзь — пералік грахоў
Ці знак пашаны модзе або звычцы?
А можа, шэраг хрысціянскіх слоў
У нашым нераствораным аблічча?

Што наша споведзь — праўда
ці хлусня?
Збавенне ад распусты і нядугу?
Калі ў душы і сэрцы — мітусня,
Яна на супакой ці на загубу?

Што наша споведзь — раскрыццё
душы?
Яе Анёл ад смецця вычышчае.
Жыві ў суладдзі з Богам — не грашы,
Бо Ён усе правіны прабачае.

# Таямнічы след

Падымаўся ў неба белы бусел,
Ды яму насустрач — правады.
Закруцілі крылы па прымусе,
І, бадай, два крокі да бяды.
Хоць змагаўся бусел з небяспекай,
Не хапала моцы аніяк…
Ну няўжо ж ля хаты чалавека
Згіне птушка ў шэльмах-правадах?!

Сыпле пер'е леташні падранак,
Хтосьці заўважыў гэтыя сляды…
І падняўся вецер нечакана,
Каб разблытаць путы-правады.
Узнімаўся ў неба белы бусел,
Адлятаючы ў далёкі свет,
Ды пакінуў тут, на Беларусі,
Свой бялюткі таямнічы след.

# Слова «кахаю»

Гэта слова пачуеш здалёк —
і душа затрапеча,
У каханні дзяўчыне прызнацца
спяшаўся хлапеча.

Колькі слоў перабраў ён у думках
і вершаў успомніў!
Ды прызнанне было несапраўдным
у хлопца ўсё роўна.

Ён трымае далоні каханай —
і сэрца згарае,
А дзяўчына з усмешкай у вочы
яму зазірае,
І збянтэжанасць знікла, і думка
ўжо больш не блукае:
«Усім сэрцам цябе я, мая дарагая,
кахаю».

# Фарбы Радзімы

Быццам неба на зямлю высыпала
зоркі —
Гэта росы мільгацяць у траве
на золку.
Я да твару паднясу Боскую слязінку:
Падары нам чысціню, росачка,
расінка!

Поле, быццам на зіму, апранула футра:
Нам рамонкі дораць свет —
белы свет, бялюткі.
Кветку тую я вазьму, адарву
пялёстак.
Падары нам чысціню, падарунак Боскі.

Быццам шлях за небакрай,
вырасла вясёлка.
Колькі фарбаў у табе,
родная старонка!
Я любуюся табой, белая краіна.
Падары нам чысціню, матухна
Радзіма!

## Марына КАВАЛЕВІЧ



# Незабыўная

Апошнім спатканнем,
Апошняю песняй,
Апошнім вітаннем
Услед напрадвесні.

Апошняй маркотай,
Апошняй маланкай,
Апошняю нотай
Прыснюся ўранку.

Зажмурышся першым
Душэўным ўспамінам,
Зусім і не светлым, —
Хлуслівa-іпжывым.
Апошнім урыўкам
З жыцця неўтаймоўна,
Апошнім і здымкам
Паўстану паўторна.

# Уваскрэсенне

Заблукалі галасы
У вішняку:
Тваё «кахаю»
І маё «люблю»…
Два словы
Ў адначассе ў вясну
Пераварнулі
З ног да галавы зямлю,
Каб уваскрэсіць наяве
Разбітае залеташняе
Шчасце.

# ***

Дарэмна… А можа, так трэба
Маўкліваць гудкоў страсянуць?
Усмешка чамусьці нясмела
На вуснах уздрыгнуць паспела,
Каб радасць на міг мне вярнуць.

Адкрытасць удосталь раптоўна
Расстаннем згарэла датла.
Усляпую, усур'ёз і бязмоўна,
Без блізкасці самай што кроўнай
Любоў для дваіх аджыла.

Міхась СЛІВА

# Рагачоўскія абразкі



## Падарункі ад дзяцей

У гарадскі аўтобус з цяжкасцю ўскараскалася пажылая кабета, цягнучы за сабой вялікую каляску, загружаную мяккімі лялькамі. Двое мужчын дапамаглі размясціцца ў салоне, і бабуля, горача падзякаваўшы, стала расказваць пра свой «бізнес».

— Гэта ж кожны дзень прыязджаю з суседняга раёна да вас на рынак! Не магу ўжо жыць, каб не пагандляваць. Толькі тры дні прапусціла: адзначала сваё сямідзесяцігоддзе. І вось зноў вязу тавар, хоць мне ўжо вельмі цяжка...

— Дык вы б пасядзелі дома, адпачылі, — са спачуваннем адгукнуўся адзін з мужчын. — Няўжо вашы дзеці не могуць паклапаціцца пра вас?

— Чаму ж, клапоцяцца. Дачка вось новую, большую, каляску падарыла да дня нараджэння, а сын — крэсла, каб зручна было сядзець і лялькі прадаваць...

## Прайшоўся

На ўскрайку вёскі жыў дзед Аўдзей. Каля яго хаты вечарамі на лаўках збіраліся старыя, побач гулялі дзеці. Аднойчы з двара дзеда Аўдзея выйшаў вялізны парсюк.

— Няхай пройдзецца! — сказаў дзед. — Лепш есці будзе.

Загаманіліся, а пра парсюка забылі. А як успомнілі, было позна. Парсюк знік. Кінуліся ў лес шукаць — дарэмна.

З таго часу, калі ў каго-небудзь штосьці прападала, у вёсцы казалі: прайшоўся, як Аўдзееў парсюк.

## Эпідэмія

У рэдакцыю раённай газеты, ледзь перасоўваючыся, зайшоў стары ў суправаджэнні сына. Прынёс два вучнёўскія сшыткі, густа спісаныя вершамі.

— Дома яшчэ некалькі ёсць! — радасна гаворыць стары. — Я па прафесіі будаўнік, усё жыццё працаваў на нашым мясовым камбінаце. А як пайшоў на пенсію, не было чаго рабіць — вырашыў пісаць вершы! Цяпер вось вярнуўся з абласной бальніцы, дык у мяне быццам які вірус усяліўся — паэтычныя радкі так і бягуць, так і бягуць...

— На жаль, да друку нічога не падыходзіць, — адказвае рэдактар, уважліва перачытаўшы творы наведвальніка.

— Як гэта — не падыходзіць! — усхапіўся мужчына. — Маладых вунь, бачу, друкуеце, а я ж ветэран працы! Буду скардзіцца!

## Радасць жыцця

Вяртаюся з працы. У двары нашага дома дзве маладыя бабулі «пасвяць» сімпатычных чатырохпяцігадовых унукаў. Я вітаюся. Падбягае адзін з хлапчукоў:

— Здрастуй!

— Добры дзень, мужыкі! — падаю руку малым. — Як справы?

— Нармальна, — весела адказваюць тыя. — А ты куды ідзеш?

— Дадому, з працы вяртаюся, — адказваю я.

— А мы вось бегаем! — са шчаслівым тварам ускліквае хлапчук ды імчыць далей.

## Чым не рай?

Канец мая. Выхадныя дні прававілі на радзіме жонкі, у хаце, якая засталася ад бацькоў. У маленькай далёкай вёсачцы — тры хаты, дзе яшчэ жывуць пенсіянеры.

Жонка палола грады, я тапіў лазню, скасіў траву ў двары і на вуліцы каля хаты.

Наўсцяж зеляніна, наваколле поўніцца спевам шматлікіх птушак.

Надвячоркам парыліся ў лазні, слухаючы спевы салаўя ў садзе. Выйшаў з лазні і падумаў: «Хто сказаў, што раю няма?».

## Сам сябе не пазнаў

Калгасны трактарыст Алег Якімчук па заданні брыгадзіра паехаў на прыдняпроўскі луг па сена. А тут яго — свежага, духмянага, з розных траў — было столькі, што вочы разбягаліся! Алег наклаў з копаў у два вялікія трактарныя прычэпы столькі, што ледзь месцілася — каптуром.

Вяртаўся дадому праз вёску Асінаўку. Насустрач выскачыла знаёмая кабета, Анюта Сіўчыкава, з дзвюма бутэлькамі самагонкі. Замахала рукамі, каб спыніўся, скінуў ёй крыху сена.

На некалькі секунд Алег разгубіўся, а потым і сам сябе не пазнаў: сцяў зубы і націснуў на газ...

Анюта доўга яшчэ бегла следам, нешта крычала, а потым са злосці шпурнула бутэлькі ў прыдарожны хмызняк.

На машынным двары Алег расказаў пра гэта хлопцам. Але тыя не паверылі. Брыгадзір — таксама. Крыўдна...



## Хто не працуе — той не есць

У кабінет старшыні сельгаскааператыва «Шырокія гарызонты» рашуча ўвайшла расчырванелая ці то ад хуткай хады, ці то ад кепска схаванага гневу загадчыца фермы Мар’я Іванаўна, вядомая ў акрузе сваім энергічным характарам.

— Што ж гэта такое?! — з ходу ўзяла яна ў абарот Пятра Апанасавіча, які адразу ажно сцяўся.

— Колькі можна чакаць?

Пятро Апанасавіч пасунуўся бліжэй да акна, балазе кабінет на першым паверсе. Хаця і пачаліся першыя замаразкі, акно было расчынена: толькі што скончылася чарговая засядалаўка-курылка.

— Халадзіна, хоць ваўкоў ганяй! — наступала Мар’я Іванаўна. — Колькі ўжо гаворана-перагаворана, што ў такіх умовах немагчыма працаваць, колькі папер спісана на заяўкі, каб наладзіць ацяпленне! І ўсё на месцы топчамся...

— Дык мы ж... — пачаў быў Пятро Апанасавіч, але загадчыца фермы яго рэзка перабіла:

— Мы ж, вы ж... Гультай няшчасны! І наогул, я прыйшла сказаць, каб сёння на вячэру ты, мой даражэнькі муж, не разлічваў. Пры такім «чулым» тваім кіраўніцтве ў мяне справ на ферме — непачаты край!

## Каб баяліся...

У рэдакцыю раённай газеты прыбег адстаўны палкоўнік Вепрукоў, былы намеснік камандзіра вайсковай часці па палітрабоце. І з парога ўзняў лямант:

— Чаму гэта вы не пішаце пра мяне?

— А што здарылася, чаму мы павінны пісаць пра вас? — здзівіліся супрацоўнікі рэдакцыі.

— Я ж быў на прыёме ў старшыні райвыканкама са скаргай на свайго суседа. Хай бы прачыталі ўсе аднавяскоўцы, каб баяліся мяне! І яшчэ. Калі я служыў на Поўначы, дык мой фотаздымак быў аднойчы ў вайсковай газеце. А вы мяне крыўдзіце — не фатаграфуеце!..

## Фатаграфія

У будынку, дзе наша фірма арандуе некалькі пакояў пад офіс, раней месцілася і фотаатэлье, дзе можна было зрабіць тэрміновае фота на дакументы. Больш як год таму атэлье пераехала ў іншае месца, але шматлікія кліенты па звычцы пастаянна заходзяць да нас. Спачатку мы цярпліва тлумачылі ўсім: «Фатаграфія» ўжо не працуе, звяртайцеся на новы адрас. Потым гэта надакучыла, і нашы супрацоўнікі напісалі кароткую аб’яву: «У нас "Фатаграфія" не працуе».

На другі дзень нас атакавалі наведвальнікі, якія хацелі сфатаграфавацца, з адным пытаннем: «А калі ж будзе працаваць фотаатэлье?».

Раззлаваўшыся, супрацоўнікі павесілі новую аб’яву: «Фатаграфіі тут не робяць!» З’явіліся новыя наведвальнікі з пытаннем: «А чаму не робяць фатаграфіі?».

## Пагасцяваў

Мікола Пеўнеў быў у камандзіроўцы ў суседнім горадзе. Сустрэў там аднакурсніка, з якім не бачыліся ўжо многа гадоў. Зайшоў да яго на «пяць хвілінак», а ў таго госці — некалькі мужчын. Пасядзелі добра. Ужо і госці пайшлі, а Мікола з сябрам усё не маглі нагаварыцца, успаміналі студэнцкую маладосць. Але ж, як кажуць, трэба меру ведаць. Зазбіраўся нарэшце Мікола дадому.

Хацеў абуцца — няма яго чаравікаў! Пасля таго, як іншыя мужчыны пайшлі, у прыхожай засталася толькі адна пара абутку, дый тая падраная. Адзін чаравік ледзь ліпеў, а падэшва другога наогул адвалілася!

Так і паехаў дадому Мікола ў чужых чаравіках з падвязанай шнурком падэшвай...

## «Багаты» гаспадар

Адзін вясковец — дрэнны гаспадар, але вялікі хвалько — аддаваў дачку замуж. Прыйшлі сваты. Гаспадар хваліцца:

— Вясна, а ў мяне, толькі зірніце, поўная бочка жыта!

Госці паглядзелі — сапраўды, у бочцы з коптарам насыпана збажыны.

А калі ўсе разышліся, гаспадар перавярнуў сваю бочку, бо стаяла яна ўверх дном.

## Каб не з’еў сусед

На агародзе ў бабы Пелагеі расце груша. Дрэва ўжо вялікае, грушы прыгожыя, смачныя, радуюць амаль кожны год. Вось і сёлета добра ўрадзілі. Але ж Пелагея чамусьці зрэзала з дрэва дзве вялікія галіны.

— Навошта вы, бабуля, гэта зрабілі? — пытаецца ў яе прыезджы.

— Грушы падаюць на агарод суседа, а я з ім нядаўна пасварылася.

## Праца павінна аплачвацца

Некалькі маіх землякоў былі на заробках у Маскве: будавалі дачу аднаму папулярнаму эстраднаму спеваку. Калі працу скончылі, гаспадар арганізаваў стол. Сеў разам з браткамі-беларусамі і давай частаваць!

Хутка госці сталі прасіць гаспадара выканаць хоць адну песню. І ён з задавальненнем праспяваў тую, з якой неаднойчы прыязджаў у нашу краіну.

Хлопцам спадабалася, папрасілі праспяваць што-небудзь яшчэ. Гаспадар зноў пагадзіўся. А потым гаворыць:

— Так, шаноўныя, усякая праца павінна аплачвацца. Вы ў мяне працавалі месяц — я вам плачу на ўсіх чатырох чатыры тысячы долараў. А зараз я працаваў для вас — мая праца каштуе дзве тысячы долараў. Так што атрымлівайце вашы дзве тысячы і будзьце здаровы!..

## Зайцы бываюць розныя

Супрацоўніцы адной раённай установы паехалі па рабочых справах у вёску. Назад вярталіся спадарожным транспартам. «Галасавалі».

Машын было мала, дый тыя не спыняліся. Стаяць надакучыла, таму адна з жанчын, па празвішчы Заяц, зайшла крыху ў лес, каб паглядзець: мо грыбы ёсць...

Нарэшце спынілася спадарожная іншамарка. Жанчына, якая «галасавала», падбегла і крычыць у напрамку лесу:

— Заяц, давай хутчэй, машына чакае!

— Які табе заяц! — з раздражненнем крыкнуў вадзіцель. — Воўк! — і націснуў на педалі...

# Не забі ў сабе падлетка, або Чаму людзям падабаюцца авантуры?

**Вялікая папулярнасць трылогіі пра шляхціца Пранціша Вырвіча і змрочнага алхіміка Баўтрамея Лёдніка сталася нечаканасцю для яе аўтара — Людмілы Рублеўскай. Твор, які пісаўся дзеля ўласнага задавальнення, займеў шмат прыхільнікаў сярод людзей розных прафесій і ўзросту. Як расцаніць гэтую з'яву? І чаму так атрымалася? Адмыслова для рубрыкі «Сама-Крытыка» мы пагутарылі са спадарыняй Людмілай пра трылогію і яе герояў, задаўшы разам з тым некалькі «праблемных» пытанняў.**



**— Па прачытанні трылогіі пачынае здавацца, што напачатку з'явілася нават не задума твора, але адзін герой — Лёднік. І хоць у назве кожнай з частак фігуруе Пранціш Вырвіч, галоўным героем часам здаецца зусім не ён…**

— Я заўсёды пытаюся ў чытачоў: хто з герояў вам больш падабаецца? Варыянты якраз два: Лёднік і Вырвіч. Гэта такі дуэт герояў — ці, быць можа, двайны герой, — які задавальняе любыя густы.

І сапраўды, напачатку ўзніклі героі — толькі не адзін, а два адразу. Такі кантрасны дуэт, у якім адпачатку закладзеная магчымасць канфлікту, дваістае вырашэнне любых праблем, дваісты погляд на падзеі.

Больш за тое, калі я пачынала пісаць, Лёднік быў зусім іншы: вучоны-зоркавед, па-першае, многа старэйшы, па-другое, надзвычай сварлівы.

**— А наконт часу? Ён таксама вызначыўся разам з героямі?**

— Героі і асяродак вызначыліся адразу — я вельмі хацела пажыць у XVIII стагоддзі: яно мне страшна падабаецца. Напісала некалькі эсэ пра нацыянальных герояў Беларусі той эпохі, назбірала шмат матэрыялаў. Вельмі дапамагла праца Адама Мальдзіса пра жыццё шляхты ў XVIII стагоддзі, — такі матэрыял сакавіты, багацюшчы! Спадзяюся, мне ўдалося перадаць менавіта атмасферу часу, так, як я яе адчуваю і разумею.

**— У трылогіі шмат рэальных гістарычных персанажаў. Ці ёсць прататыпы ў Вырвіча і Лёдніка?**

— Некаторыя лічаць: і Лёднік з Вырвічам існавалі рэальна! Большасць маіх герояў — зборныя вобразы, і нельга сказаць адназначна, што ёсць адзіны прататып для кожнага. Але мяне вельмі цешыць, калі чытачы іх знаходзяць. Вось Баўтрамей Лёднік — палачанін, алхімік, доктар… Канечне, Францыск Скарына!

**— Апошні, пра каго б я падумала.**

— Чаму ж — проста мы ўяўляем Скарыну вельмі стэрэатыпна. Насамрэч ён быў чалавекам дастаткова складаным і некалькі гадоў займаўся алхіміяй. Канечне, дакументальных сведчанняў не існуе, але хутчэй за ўсё так і было. Тут жа можна ўспомніць верш Багдановіча «Скарына, доктар лекарскіх навук…». Падымаецца на вежу, лічыць зоры… Аднак не будзем праводзіць паралелі між Лёднікам і Скарынам — гэта дастаткова далёкія персанажы. *(Смяецца.)* Проста я кажу пра эпоху і ўсведамленне Беларусі як еўрапейскай краіны, дзе было еўрапейскае адраджэнне, еўрапейскае Асветніцтва.

У беларускай літаратуры вельмі вузкае кола спажыўцоў. Цяжка змусіць чалавека нават узяць у рукі беларускую кнігу. І мяне вельмі цешыць, што цыкл пра Вырвіча чытаюць людзі, якія да гэтага літаратуру на беларускай мове ўвогуле не чыталі. На сустрэчы ў Брэсце было шмат жонак вайскоўцаў — розных нацыянальнасцей, з розных краін. І адна жанчына, здаецца, з Казахстана, сказала, што яна чытае мае кнігі і ганарыцца Беларуссю. Мяркую, гэта галоўнае. Каб пасля маіх кніг хацелася быць беларусам.

**— Дарэчы, пра жанчын. Цэнтральны жаночы персанаж трылогіі — Саламея, жонка Лёдніка. Спачатку яна падаецца вельмі моцнай: лекарка, займаецца навукай, праходзіць праз столькі выпрабаванняў і столькі даруе мужу… А потым пачынаеш бачыць усё з іншага боку. Яе лекарства можна лічыць адлюстраваннем пачуцця да мужа, жаданнем падзяліць яго цікаўнасці. Усёдараванне можна расцаніць як адсутнасць годнасці — «раба любові». І атрымліваецца, што не такая яна і моцная, наадварот: тыповы вобраз славянскай жанчыны, адданай да самазабыцця.**

— Тут трэба падумаць, што можа лічыцца сілай, а што — слабасцю. Сілай жанчыны лічыцца яе маскулінnасць, але насамрэч гэта сведчыць толькі пра тое, што жанчына ўсведамляе сябе настолькі слабай, што, каб давесці сваю моц, яна мусіць пераймаць іншы пол, удаваць з сябе малатабойца.

Не трэба мімікраваць. Трэба цаніць тое, што дадзена. Я перакананая: жанчына нічым не горшая і не слабейшая за мужчыну. Тое, што лічылася жаночымі заганамі, слабасцю, такім не з'яўляецца. Не можа быць заганай для бэза тое, што ён не чырвоны, а бэзавы. Такі ў яго колер. Гэта не добра і не кепска.

Чаму адданасць маёй гераіні сям'і мусіць расцэньвацца як слабасць? Па-мойму, гэта якраз патрабуе вялікай моцы. Куды меншых высілкаў патрабуецца на тое, каб усё кінуць і сысці.

Многія чытачы абураюцца, калі Лёднік робіць не вельмі этычныя ўчынкі, і спачуваюць Саламеі. Кажу адразу: героі не павінны быць ідэальнымі. І здольнасць дараваць я таксама не лічу слабасцю. Гэта праява вялікай душэўнай сілы. Зразумейце, мае героі — шчырыя хрысціяне. Паняцці граху і даравання для іх не пустыя словы, яны так выхаваныя, яны гэтым жывуць.

Так, Саламея даравала, але ж Лёднік, што называецца, не спецыяльна… Яго здрады былі абумоўленыя непераадольнымі абставінамі. Вось так.

**— Але ж кажуць, што выбар заўсёды ёсць.**

— Ну… Значыць, мае героі жывыя людзі з уласцівымі ім слабасцямі. У Лёдніка яны вось такія.

**— Ад першай да трэцяй кнігі — а хутка і чацвёртай — можна заўважыць, як змяняецца Пранціш Вырвіч. Напачатку — самаўпэўнены шляхцюк, які мала думае і ледзьве што — хапаецца за шаблю. Пад канец — задуменны паэт. Гэтая эвалюцыя адбылася ў імя мастацтва ці дыдактыкі? Каб чытач-падлетак займеў добры прыклад?**

— У твора ёсць свая ўнутраная логіка, і героі змяняюцца згодна з ёю. Яны не могуць застацца ранейшымі, калі перажываюць падзеі, якія павінны іх змяніць. Калі і ёсць нейкая дыдактыка, яна ўзнікае сама па сабе.

**— Існуе такі ўмоўны падзел: пісьменнікі-садоўнікі і пісьменнікі-архітэктары. Першыя вырошчваюць твор з драбніцы, з аднаго зерня; другія выбудоўваюць твор ад пачатку да канца. Які вы пісьменнік?**

— Для мяне актуальна і тое, і тое. Вельмі важна, каб твор быў жывы, гэта значыць, я садоўнік. Мне нецікава пісаць па падрабязным плане, я сама мушу здзіўляцца. Але зусім адмовіцца ад рамяства — неразумна і не на карысць твору. Трэба мець пэўныя канструкцыі, хоць бы і на ўзроўні падсвядомасці. Акрамя таго, у героя павінен быць выбар, некалькі варыянтаў развіцця падзей. Таму яшчэ раз кажу: нейкія элементы канструкцыі быць павінны, але гэта рамяство, і без таленту за твор не варта і брацца.

**— Вы сказалі пра некалькі варыянтаў развіцця падзей. Можаце распавесці пра паварот, які планаваўся, але не адбыўся?**

— Жаніцьба Пранціша Вырвіча. Было шмат варыянтаў, як уладкаваць яго асабістае жыццё, і калі я выпісвала вобраз Ганулькі Макавецкай, ціхмянай, прыгожай дзяўчыны, прыкідвала, а ці не яму яна дастанецца.

У адной з кніг яны нават сталі жаніхом і нявестай, але не можа Пранціш быць з Ганулькай!.. Сумна яму з ёй будзе. У чацвёртай кнізе ўсё прачытаеце… Мяркую, яна стала завяршэннем.

**— Вы ўпэўненыя?**

— *(Смяецца.)* Хачу адпачыць і напісаць нешта іншае. Я страшэнна баюся пайсці на зніжэнне. Чацвёртую кнігу давала пачытаць некалькім крытыкам, прасіла быць вельмі прыдзірлівымі і строгімі, і нібыта кажуць, што не горш.

> *«Адна жанчына сказала, што чытае мае кнігі — і ганарыцца Беларуссю. Мяркую, гэта галоўнае».*

У кожным з нас жыве падлетак, якому хочацца прыгод, крыху містыкі і рамантыкі… А пад гэтай абалонкай я даю дастаткова сур'ёзны матэрыял па гісторыі Беларусі, сваю канцэпцыю, беларусацэнтрычную, апісваю вельмі шмат сур'ёзных падзей з нашага мінулага, і з усяго гэтага вынoўваецца дастаткова ўцямная панарама эпохі з перспектывамі далейшага развіцця Беларусі. Няхай гэтая беларускасць засвойваецца разам з займальным аповедам, як запавядаў нам вялікі Караткевіч.

**— Ваша трылогія — ды і многія іншыя творы — відавочна схіляецца да рамантызму. Але і той жа Караткевіч у 16 гадоў чытаецца зусім інакш, чым у сталым узросце… Не баіцёся, што са сталеннем вашай аўдыторыі будзе губляцца сама аўдыторыя?**

— Вось гэта самае смешнае. Нядаўна распавялі, як дзяўчаты-студэнткі ў кнігарні абмяркоўвалі маю трылогію: маўляў, цікава, але кнігі гадоў для чатырнаццаці… З іншага боку, людзі ў сталым узросце адмыслова шукаюць мае кнігі — ім таксама цікава, ім падабаецца.

**— З чаго можна зрабіць выснову, што «рамантызм» папулярны не ў пэўным узросце, а ў пэўным коле чытачоў.**

— Я ўжо зразумела, што ўсё адно буду памыляцца з узроставымі нішамі. «Рабінзон Круза» — для каго ён?.. «Вечары на хутары блізу Дзіканькі» — для якога ўзросту?.. Казаць, што дарослым патрэбныя сур'ёзныя таміны, а малодшым — адно Гары Потэр, няправільна. Хто спажыўцы сучаснага гарадскога фэнтэзі, таго ж Ніла Геймана? Людзі абсалютна дарослыя, якія сцвердзіліся ў жыцці.

**— І зусім не насцярожвае, што праз пэўны час «рамантызм» можа стаць неактуальны? Не хацелася напісаць нешта зусім адрознае?**

— Калі нехта з маіх чытачоў перарасце Вырвіча, ён можа ўзяць «Сутарэнні Ромула». Пісьменнік павінен ствараць моду, а не сачыць за ёй і падпарадкоўвацца. Прасцей за ўсё было б паглядзець, што хваліць крытыка, і напісаць дакладна тое самае. Мне гэта нецікава — і не трэба.

**— «Рабі, як не робіць ніхто…»**

— Так мне хочацца, вось і ўсё. Будзем казаць шчыра, за свае кнігі я не атрымліваю столькі, каб на гэта жыць. На ўзроўні працы гэта хобі. Займаюся ў вольны час, звычайна — на начах. Таму ніхто не стане дыктаваць, пра што мне пісаць і як.

**— Але ж бываюць такія чытацкія водгукі, да якіх вы прыслухоўваецеся?**

— Так. Мне і самой цікава пагаварыць пра маіх герояў — як пра жывых людзей. Таму, пэўна, уплыў ёсць.

**— Атрымліваецца, што чытач для вас значыць больш, чым крытык.**

— Хіба крытык не чытач?.. Да ўсяго, крытык больш ацэньвае, робіць высновы, а чытач — суразмоўца, зацікаўлены ў тваіх героях не менш за цябе.

**— Калі ўявіць, што Баўтрамей, Пранціш і Саламея жывуць у наш час, — кім бы яны былі?**

— Мяркую, Лёднік быў бы навукоўцам, эксперыментатарам, загадчыкам лабараторыі. Хімія, прыкладам…

**— Генная інжынерыя. Тут і хрысціянскае пытанне…**

— Дакладна! Вырвіч быў бы студэнтам. Разам мяркуем яго на гістфак! Упадаў бы за дзяўчатамі, пісаў бы вершы, друкаваўся. Быў бы вельмі актыўны, вадзіў экскурсіі па горадзе на фэсце экскурсаводаў. Саламея была б доктарам, працавала б у бальніцы, магчыма, педыятрам ці акушэркай.

**— Цікава, што сярод жаночых персанажаў у вас няма ніводнага адмоўнага. Ёсць вобразы супярэчлівыя, але такіх, што выклікалі б у чытача адмоўныя эмоцыі, няма.**

— Як казаў Станіслаўскі, хочаш сыграць добрага, шукай, дзе ён злы. І наадварот. Няма людзей, маляваных адной фарбай.

**— А можа, вы як пісьменнік-жанчына не хацелі паказваць жанчын у кепскім святле?**

— Ды не… Я пра гэта, па шчырасці, не задумвалася. Жанчына ёсць жанчына. У яе заўсёды будзе апраўданне. Яна заўсёды трошкі ахвяра.

**— Як вы самі вызначаеце месца трылогіі ў шэрагу напісанага?**

— Я бачу яе ў асобнай нішы, авантурна-прыгодніцкай… Ды гэта ўжо і не трылогія. Цяпер кажу — цыкл раманаў. У ім спраўдзілася шмат папярэдне сабранага, напісанага, таму і зусім асобна яго паставіць нельга. Тут ёсць водгукі ўсіх ранейшых твораў, асабліва дакументальнай прозы і гістарычных эсэ. І нават развіццё нейкіх персанажаў можна заўважыць з папярэдніх твораў — вобраз выклятага вучонага, зорказведа…

**— Калі звярнуцца да ўсіх вашых твораў, які з іх найбольш дарагі?**

— «Забіць нягодніка, альбо Гульня ў Альбарутэнію». Самы эмацыянальна стратны. Доўга ачуньвала, нават фізічна.

**— А герой?**

— Зноў-такі, цяжка сказаць, бо з кожным пражываеш ягонае жыццё і пакуты… Баўтрамей Лёднік, канечне, наша ўсё. *(Усміхаецца.)* Увогуле, у кожным творы мусіць быць персанаж, якога я люблю, інакш не напішацца.

**— Ці ненавідзець.**

— Таксама эмоцыя. Але ўсё роўна кагосьці павінна быць вельмі шкада. Нават калі ты вельмі жорстка абыходзішся з героямі, пісаць, не спачуваючы, нельга.

**Наста ГРЫШЧУК**

# Шыпшына не адцвітае

**Чытаючы «Бярозку», «Піянер Беларусі», «Вясёлку», я часта бачыў творы пісьменнікаў, чые імёны дагэтуль не сустракаліся: Ядвіга Бяганская, Алесь Пальчэўскі, Андрэй Александровіч, Сяргей Грахоўскі, Мікола Хведаровіч, Уладзімір Дубоўка... Я іх лічыў маладымі. А паколькі сам спрабаваў пісаць, цікавасць да гэтых аўтараў была асаблівая. І як жа здзівіўся, калі аднойчы, узяўшы ў рукі даведнік «Пісьменнікі Савецкай Беларусі», убачыў: гэтым «маладым» даўно за сорак, некаторым нават пад шэсцьдзясят! Здзівіла і тое, што многія пісьменнікі памерлі ў 1937 ці 1938 гадах. Якая «эпідэмія» прайшла па беларускай зямлі?..**



*Масква, 12 снежня 1968 г.*

Пра незвычайны, складаны і трагічны лёс Уладзіміра Дубоўкі я даведаўся ўлетку 1960 года, калі нечакана натрапіў на ягоны зборнік выбраных твораў, што выйшаў годам раней у Дзяржаўным выдавецтве Беларусі. У кнізе ёсць прадмова Пятра Глебкі. Жыццяпіс, напісаны самім У. Дубоўкам, быў змешчаны ў зборніку аўтабіяграфій беларускіх пісьменнікаў «Пяцьдзясят чатыры дарогі». Я прачытаў яго крыху пазней за глебкаўскі артыкул, у якім поўна недагаворак і нават абвінавачвальны закід па канонах тагачаснай ідэалогіі: у сваёй творчасці паэт дапускаў памылкі ідэйна-палітычнага парадку.

Уладзіміру Дубоўку раней чым каму наканавана было трапіць пад махавік сталінскай машыны, што толькі набірала хаду. Магчыма, «паспешлівасць» тагачасных ахоўнікаў улады і ўратавала У. Дубоўку ад немінучай пагібелі, што здаралася праз колькі часу з дзясяткамі яго сяброў і таварышаў па пяры... Хто ведае. Сам паэт пра гады змушанага выгнання і ганьбавання згадвае так:

«Што было далей са мной, пачынаючы ад 20 ліпеня 1930 года па 1958 год, я тут казаць не буду, бо гэта заняло б многа паперы. Я на немалы час пераключыўся на іншыя работы, у тым ліку і на будаўнічыя. Пры гэтым пабыў і на Вятцы, і на Далёкім Усходзе, а пасля 1949 года — у Краснаярскім краі, на рацэ Бірусе. Працаваў на розных вялікіх будоўлях, аваладаў многімі спецыяльнасцямі. Адзін пералік іх сягае вышэй двух дзясяткаў. Але найбольш доўгі час працаваў тынкоўшчыкам, мулярам, маляром, сталяром... Здаралася працаваць і на лёгкіх работах: працаваў юрысконсультам, эканамістам, бухгалтарам. За тыя гады як пісьменнік нічога не рабіў».

Уладзімір Мікалаевіч палічыў за лепшае прагарнуць некаторыя старонкі жыццяпісу, не казаць, хто паспрыяў яго доўгатэрміновым «камандзіроўкам» па неабсяжных прасторах Савецкага Саюза. Чаму?

Пэўны адказ, мне здаецца, — перыяд напісання аўтабіяграфічных нататак: 22 чэрвеня 1962 года. Гэта быў час, калі, нягледзячы на паслясталінскую адлігу, пэўную свабоду слова і думак, былыя гулагаўцы ўсё яшчэ адчувалі сябе «поражёнными в правах», баяліся сказаць праўду пра перажытае ў зняволенні. І гэта не мая фантазія — сам чуў ад некаторых пісьменнікаў, якім удалося вярнуцца з таго пекла: «Э-э-э, браце, не вер таму, што цяпер усё можна гаварыць адкрыта, не баяцца нічога. А толькі па неасцярожнасці ляпні лішняе слова, як бач, заграбуць, на Калыму грэцца адправяць...».

Немагчыма ўявіць: дваццаць восем гадоў без радзімы, дваццаць восем гадоў без радка! Колькі цудоўных твораў, сапраўдных паэтычных дыяментаў страціла наша літаратура за час маўчання такога майстра, якім быў Уладзімір Дубоўка?..

Гэтак думаецца цяпер, гэтак думалася і тады. І не толькі пра аднаго Дубоўку. Бываючы на вечарынах у пісьменніцкім клубе па вуліцы Энгельса, 9, мне пашчасціла бліжэй пазнаёміцца з тымі, каго я не так даўно лічыў пачаткоўцамі. З Уладзімірам Мікалаевічам пабачыцца не выпадала: ён жыў у Маскве.



*Пасля лагера, 1947 — 1948 г.*

І ўсё ж улетку 1964 года сустрэча адбылася. У той час я, студэнт-вячэрнік, працаваў рэдактарам літаратурных праграм замежнага вяшчання Беларускага радыё (і сёння гэтая радыёстанцыя вядзе перадачы для беларусаў замежжа). Яшчэ раней пачала выходзіць газета, вядомая сёння пад назвай «Голас Радзімы». У адным яе нумары я неспадзявана натрапіў на артыкул «Нам некалі са смуткам знацца»: у ім паэт Уладзімір Дубоўка даваў водпаведзь «бебурнацам», па тагачасных ідэалагічных мерках — беларускім буржуазным нацыяналістам, якія даволі часта ў перадачах радыё «Свабода» і ў сваіх газетах пралівалі слёзы па ім, нібыта бралі былога забароненага паэта пад сваю абарону, выкарыстоўваючы яго імя ў прапагандысцкіх мэтах. Па шчырасці, тое ж не праміналі рабіць і мы, супрацоўнікі радыёстанцыі «Савецкая Беларусь». Ішло як бы перацягванне каната: хто каго?

Быў змешчаны і партрэт Уладзіміра Мікалаевіча: прыветны, удумлівы позірк вачэй, лагодны твар, густая шырокая таямнічая барада...

— Давайце перадрукуем і ўключым у нашу праграму, — загарэўся я.

— Перадрукаваць і перадаць — не штука, — астудзіў мяне намеснік галоўнага рэдактара Аляксандр Лебедзеў. — Добра было б, калі б змаглі запісаць яго, каб Дубоўка сам выступіў.

— А як жа яго запішаш? Дубоўка ў Маскве жыве.

— А ты ў «Голас Радзімы» пазвані. Яны ж неяк звязаліся.

У газеце здзівіліся:

— А навошта яго шукаць? Уладзімір Мікалаевіч у нас, у рэдакцыі. Можаце з ім перагаварыць самі...

Выслухаўшы мяне, паэт надзіва лёгка і ахвотна згадзіўся:

— Добра, я завітаю да вас. Толькі не цяпер, а гадзінкі праз дзве. Мне яшчэ трэба зайсці ў «Полымя».

Калі праз некаторы час я кіраваўся ў кабінет, Аляксандр Лебедзеў перастрэў мяне:

— Ты дзе гэта бегаеш? Запрасіў чалавека на запіс, а сам знік.

— Я ў студыі быў, — пачаў апраўдвацца, пасля перапытаў: — А хто прыйшоў? На гэты час нікога не запрашалі...

— Дубоўка прыйшоў.

Ён быў такі ж, як на партрэце.

— Прабачце, што парушыў дамову, раней часу з'явіўся, — нібы апраўдваючыся, пачаў ён, устаўшы з-за майго стала. — У «Полымі» нікога не застаў. Аказваецца, яны пазней пачынаюць працу. Дык я ўжо ад вас да іх зайду. Для вас са студыяй няўручнасці не будзе?

У яго постаці было штосьці волатаўскае, быццам у рэдакцыйны пакой ён завітаў з народнай казкі. Ён ледзь прыкметна картавіў, і гэта імпанавала яму, рабіла гаворку па-сяброўску прывабнай, даверлівай. Праз нейкія пяць-дзесяць хвілін мне здавалася, што я даўно знаёмы з паэтам — так проста ён трымаўся.

Пад канец запісу я папрасіў Уладзіміра Мікалаевіча прачытаць верш, які даў назву артыкулу ў «Голасе Радзімы» і радкамі з якога ён заканчваўся.

Дубоўка чытаў няспешна, узважваючы радкі і словы, бо ў іх адбілася часцінка яго лёсу, яго шчодрага сэрца, думак, памяці:

*І Волгу бачыў я, і Дон,*
*багата рэк сібірскіх бачыў.*
*Такі мой лёс: з юнацкіх дзён*
*Ён вандраванні мне*
*прызначыў.*
*Вадзіў праз горныя хрыбты,*
*цераз Байкал і за Байкалам.*
*А хараство, а пекнаты —*
*аж цераз самы край бывала.*
*Жыві хоць лішніх сто гадоў —*
*красу праславіць немагчыма.*
*Патрэбна сотня мастакоў*
*ды ўсё каб з яснымі вачыма...*



*На возеры Нарач, 1958 г.*

У кастрычніку 1966 года мяне ўзялі на працу ў часопіс «Бярозка» — часопіс, першы нумар якога ў снежні 1924 года падпісаў у друк Уладзімір Дубоўка. Не раз адказваў Уладзіміру Мікалаевічу на казкі і апавяданні, што ён дасылаў з Масквы, рыхтаваў іх да друку. Скажу шчыра: мне, маладому, не ўсё было зразумела. Не змест, а некаторыя словы, выразы. Часам я рабіў праўкі. Уладзімір Мікалаевіч, відаць, асабліва не крыўдаваў: разумеў маю рэдактарскую нявопытнасць. Дасылаючы наступныя творы, ён стараўся растлумачыць той ці іншы незвычайны выраз і разам з тым тлумачыў мой папярэдні промах.

«Бярозка» рыхтавалася да свайго 50-годдзя. Складалі спіс, каго варта прадставіць да ўрадавых узнагарод. З нагоды юбілею абяцалі даць чатыры ці пяць Ганаровых і проста Грамат Вярхоўнага Савета БССР.

— Мяркую, варта першым упісаць Уладзіміра Дубоўку, — выказаўся галоўны рэдактар Васіль Зуёнак. — Ён усё ж быў самым першым рэдактарам. І калі дадуць яму Ганаровую грамату, дык за ўсё, што ён зрабіў для дзіцячай літаратуры. А зрабіў ён — зірніце колькі! А ўрэшце, трэба пазваніць яму, спытаць, якой думкі ён сам. Дакументы на ўзнагароды трэба здаць тэрмінова, таму, Мікола, не адкладвай, пазвані сёння ж... Заадно папрасі: можа, напіша колькі слоў пажадання чытачам «Бярозкі» і дасць што-небудзь з новых твораў у юбілейны нумар.

Уладзімір Мікалаевіч, як мне здалося, крышку разгубіўся.

— Ведаеце, я ўжо маю ўзнагароду ад «Бярозкі». Калі ёй споўнілася 40 гадоў, мяне ўзнагародзілі Ганаровай граматай Вярхоўнага Савета БССР. Я думаю, гэтага дастаткова. А потым неяк журботна-даверліва прызнаўся: — Гэта мая адзіная ўрадавая ўзнагарода. Дзякуй «Бярозцы»! А ў юбілейны нумар абавязкова дашлю ўсё, што вы просіце...

І ўсё ж Уладзімір Мікалаевіч быў адзначаны яшчэ раз.

Пасля рэабілітацыі У. Дубоўка не вярнуўся на радзіму ў Мінск, жыў у Маскве. Чаму?

Пра гэта аднойчы спытаў у Сяргея Міхальчука — рэдактара выдавецтва, які неаднойчы сустракаўся з У. Дубоўкам, працаваў над яго кніжкаю казак «Залатыя зярняты», што выйшла да 75-годдзя паэта і ў якую Уладзімір Мікалаевіч прасіў уключыць 7500 вершаваных радкоў — усяго па 100 радкоў на кожны пражыты год. І Міхальчук распавёў: «Чуў я, што Дубоўка гэты крок так растлумачыў: у Мінску шмат сяброў, яны будуць хадзіць да цябе ў госці, ты павінен будзеш хадзіць да іх... Ці ж да працы будзе? А задумана вельмі шмат. У Маскве ж цішэй, спакайней, ніхто не адрывае ад стала...».

У гэтым перакананні ўся яго творчасць: зборнікі новых вершаў і прозы для дарослых, адна з іх — «Палеская рапсодыя» — у 1962 годзе адзначаная Літаратурнай прэміяй імя Янкі Купалы, кніжкі для дзяцей, пераклады санетаў Шэкспіра, твораў Байрана, Гётэ, Сыракомлі, Славацкага, Тычыны, Сасюры і іншых. Пераклады рабіў толькі з арыгінала. Выпускнік Вышэйшага літаратурна-мастацкага інстытута імя В. Брусава, у свой час ён быў ці не самы адукаваны сярод сваіх аднагодкаў, ці не самы таленавіты.

Такім ён застаўся да канца сваіх дзён — сынам апетай ім Шыпшыны.

**Мікола ЧАРНЯЎСКІ,**
**здымкі з фондаў БДАМЛМ**

**P. S.** Аднатомнік выбраных твораў Уладзіміра Дубоўкі захоўваўся ў маёй хатняй бібліятэцы каля трыццаці гадоў. Расстаўся з ім даволі нечакана.

Аднаго дня ў рэдакцыю «Бярозкі» завітаў настаўнік з Мядзеля: у школе № 1, дзе калісьці вучыўся Уладзімір Дубоўка, ствараюць літаратурны музей паэта, ідзе збор матэрыялаў. Можа, у «Бярозцы» нешта знойдзецца?

Даведаўшыся, што я ў свой час бачыўся з Уладзімірам Мікалаевічам і маю кнігу, якая стала бібліяграфічнай рэдкасцю, госць усцешыўся: «Было б цудоўна, каб вы напісалі ўспаміны і падарылі гэтую кніжку музею!».

Абяцаныя ўспаміны я напісаў. Што да кнігі, яна «перабралася» ў Мядзель. Адно цяпер хочацца ведаць: ці жыве музей паэта?

# Паэт смяецца апошнім

**Нават калі чалавеку, далёкаму ад беларускай літаратурай, сказаць, што ёсць такі паэт, які ведаў яшчэ Купалу і Коласа, у адказ атрымаем вялікае здзіўленне. Лагічна, што сёння Мікола Аўрамчык успрымаецца як легенда: двойчы працаваў у шахтах, прайшоў вайну і палон, быў знаёмы з большасцю нашых класікаў — і стаў ім сам. Кожная сустрэча з Міколам Якаўлевічам — вялікае свята для беларускага чытача.**



Фота Ганны Бізуновай.

Адно з такіх свят падарыла нам Прэзідэнцкая бібліятэка Рэспублікі Беларусь.

Мікола Якаўлевіч не хаваў хвалявання: «Я вельмі ўзрушаны: многа-многа гадоў назад я працаваў тут блізка. З тылавога боку гэтага будынка (Дом урада. — **Н. Г.**) знаходзіўся Саюз пісьменнікаў. Потым ён месціўся насупраць Ленінскай бібліятэкі, потым — у будынку, дзе быў знішчаны Кубэ. Толькі пасля збудавалі дом на Фрунзэ, 5».

Ахвотней за ўсё паэт расказваў пра шматлікія вандроўкі па Савецкім саюзе: тады пісьменніцкія дэлегацыі адольвалі тысячы кіламетраў, каб сустрэцца з чытачом. «Часта маімі спадарожнікамі былі Булат Акуджава, Данііл Гранін, Юлія Друніна і яе муж Аляксей Каплер, вядомы аўтар кінафільмаў пра Леніна. Займальны чалавек, вясёлы, заўжды хораша выступаў. Расказваў ён вельмі многа таго, чаго мы на той час не ведалі… Я заўжды любіў кампанію вясёлых людзей. Магчыма, таму, што мне самому лёгка жылося, хораша працавалася, можна было і жартаваць, і смяяцца, і спадзявацца на ўсё новае, што пачыналася ў жыцці. Цяпер я, канечне, вельмі абмежаваны, — зусім страціў зрок, таму не здзіўляйцеся: я нікога з вас не бачу, як не бачу і свае кнігі».

Пра што б ні казаў Мікола Якаўлевіч, усё з нязменным гумарам. «Я б мог пачытаць вам вершы. Але чытаць вершы — гэта нудна. Паэзія — рэдкая з'ява, і ўжываць яе трэба ў абмежаваных колькасцях».

Шмат пытанняў, якія задавалі супрацоўнікі бібліятэкі, тычыліся ваенных падзей у біяграфіі Міколы Якаўлевіча. На іх паэт адказваў вельмі скупа: распавёў, што некалькі разоў бачыў на фронце сумнавядомага Уласава (генерал трапіў у палон і пайшоў на супрацоўніцтва з кіраўніцтвам Трэцяга рэйха), як іх, радавых, закінулі да «Кацюш» — абараняць зброю, як працаваў у нямецкіх шахтах, дзе падхапіў шахцёрскую малярыю і быў скіраваны на іншыя шахты, да палонных савецкіх афіцэраў.

Аддаўшы разумовай працы львіную долю свайго жыцця, Мікола Якаўлевіч з усмешкай згадвае першыя свае «старанні»: дзіцём акучваў і баранаваў калгасную бульбу, потым быў заняты на распрацоўцы і вымярэнні залежаў торфу, і ўжо затым была журналістыка. Фізічная праца заўжды яго захапляла. І сёлета Мікола Якаўлевіч справіў 95 гадоў.

Распавёў ён і адну з самых цікавых сваіх гісторый: як студэнцкі білет, лічы, ўратаваў яму жыццё. «Сталін даў распараджэнне вярнуць на вучобу студэнтаў педінстытутаў і філалагічных факультэтаў. А я ўсю вайну пранасіў у кішэнях залікоўку і студэнцкі білет».

Адразу па вяртанні з Данбаса ў Мінск ён працягнуў працу ў рэдакцыі газеты «Піянер Беларусі» і хацеў узяцца за вучобу, але вось бяда: у педінстытуце заняткі пачыналіся з дзявятай раніцы. Што рабіць? Міколу падказалі пайсці на філфак: там вучыліся з пятай вечара.

Выключную ролю ў пісьменніцкай біяграфіі Міколы Аўрамчыка адыграў Аркадзь Куляшоў: «Ён надрукаваў мае першыя вершы — без мяне: я проста дасылаў іх у Саюз пісьменнікаў, дзе быў кабінет маладога аўтара. Куляшоў адказваў на кожны твор цудоўнымі-цудоўнымі лістамі. Ніхто пасля не вучыў і не дауччваў мяне так, як ён. Аднойчы Аркадзь Куляшоў напісаў, што верш «Парашутыстка», можа, надрукуюць у якой маладзёжнай газеце. Я чакаў з нецярпеннем, калі ж прыйдзе тая газета. Ніякай газеты з вершам не было, а прыйшоў часопіс «Полымя» і газета «Літаратура і мастацтва», у якой пісалі, што ж у «Полымі» друкуецца».

Асобная гісторыя — пра верш «Адлёт жураўлёў», які стаў знакавым для маладога паэта. «Было гэта ва ўніверсітэце. Да нас у госці прыйшлі Купала, Колас, Лынькоў і Эдзі Агняцвет. Пачалі аглядаць наш часопіс. І тут мне кажуць: «Глядзі! Колас твой верш чытае!» Я з трэцяга шэрагу, праз чужыя спіны і плечы, гляджу: Колас чытае надрукаваны на машынцы мой верш. У мяне пачалі калені трэсціся ад страху!.. Колас кончыў чытаць верш, перадаў Купалу, што сядзеў поплеч, злева. Купала надзеў акуляры, таксама прачытаў. Нешта яны пагаварылі між сабой і аб'явілі: будзем чытаць вершы! І першаму слова далі мне. Я так спалохаўся, аж не ведаў, што рабіць! Звычайна мы хавалі свае вершы па кішэнях: усе агледзеў — не знайшоў ніводнага. Я са страху ўхапіўся за трыбуну — і па памяці прачытаў два вершы».

Назаўтра ў «Чырвонай змене» і «Сталінскай маладзёжы» з'явіліся публікацыі пра сустрэчу з падрабязным аповедам, хто, што і як чытаў».

Са смехам Мікола Якаўлевіч згадвае: «Усе маладыя зайздросцілі, што я сябрую са старэйшым пакаленнем пісьменнікаў. А старэйшае пакаленне зайздросціла, што я так звязаны з маладымі і болей важдаюся з імі, чым са старэйшымі...».

Пра пераход з «Полымя» ў «Маладосць», які для многіх стаўся нечаканым і нават таямнічым, Мікола Якаўлевіч сказаў наступнае: «Вялікую ролю тут адыграў Пётр Машэраў. Каб не ён, я б нікуды з «Полымя» не пайшоў: я там быў, як у Танка за пазухай. Многія тады дзівіліся: чаму я пакінуў часопіс? І я вам прызнаюся: я ішоў, баючыся, што інакш разлуецца Пятро Міронавіч. У «Маладосці» я адпрацаваў 27 гадоў — і ўжо нікуды не сыходзіў».

Нягледзячы на тое, што больш як чвэрць стагоддзя Мікола Аўрамчык аддаў працы з моладдзю, сучасныя юнакі і дзяўчаты застаюцца для яго загадкай: «Без выхавання моладзі не можа быць ніякай будучыні краіны. Сёння нам, можа, трохі цяжкавата з моладдзю, у якой столькі спраў, столькі клопатаў. Для мяне цёмны лес — чым яны займаюцца, што яны ведаюць у жыцці. Я нават пабойваюся, бо гэта ж наша будучыня».

Падчас сустрэчы Мікола Якаўлевіч упершыню патрымаў у руках сваю найноўшую кнігу — том выбранага з серыі «Беларускі кнігазбор», у які ўвайшлі вершы і паэма «Волхаўская споведзь». Пісьменнік пакінуў для Прэзідэнцкай бібліятэкі памятны аўтограф.

**Наста ГРЫШЧУК**

# Дубоўка і Пшыркоў: гісторыя сяброўства

**Яны былі сапраўднымі сябрамі — літаратуразнаўца Юльян Пшыркоў і паэт Уладзімір Дубоўка. Гісторыя нашай літаратуры не вельмі багатая на прыклады самаахвярнага мужчынскага сяброўства, якое звязала б настолькі маштабных творцаў. Пра вытокі яго расказвае дачка Юльяна Сяргеевіча Таццяна Пшыркова.**

## РАЗГУБЛЕНЫ ПАЭТ

Яны пазнаёміліся ў 1960 годзе — і адразу пасябравалі. Я памятаю Дубоўку проста як члена сям'і. У нас стаяла канапка, на якой ён спаў, калі прыязджаў у Мінск, наш дом быў без усялякіх акалічнасцей і ягоным домам.

Пазнаёміліся яны так. Саюз пісьменнікаў ладзіў вечарыну з нагоды 60-годдзя Дубоўкі. Уладзімір Мікалаевіч ужо быў рэабілітаваны, але ставіліся да яго неяк насцярожана. Скончылася ўрачыстая частка — і ўсе разышліся, ніхто з Дубоўкам не застаўся, нават гасцініцу яму не заказалі… А мой бацька затрымаўся ў зале, і калі выйшаў, убачыў ля выхаду разгубленага паэта. «Калі вы не пагрэбуеце простым домам на самай ускраіне — дык запрашаю…» Дубоўка ўсміхнуўся: «Якіх толькі дамоў я ў жыцці не бачыў!» І яны паехалі да нас.

З кожным членам нашай сям'і Дубоўка вёў асобную перапіску — з 1960 года і да самай смерці. Я выконвала ягоныя рэдакцыйныя просьбы, а мая маці, як і Дубоўка, была заўзятым грыбніком. Грыбы, зёлкі, лес — гэта іх неверагодна захапляла. Уладзімір Мікалаевіч спецыяльна перасылаў з Масквы рэдкія кніжкі пра расліны. «Даражэнькая» — так ён да яе звяртаўся. У яго ўсе былі «даражэнькія». Але, па сутнасці, Дубоўка быў вельмі сціплы на выяўленне пачуццяў.

## СМЕЛЫЯ І МОЦНЫЯ

У 1969 годзе выйшла з друку аповесць Уладзіміра Дубоўкі «Ганна Алелька» пра настаўніцу батанікі, якая зацікавіла вучняў паходамі па Беларусі, вывучэннем гісторыі і прыроды. Першапачаткова Дубоўка назваў гераіню Нонай Іванаўнай. Але рэдактар палічыла, што Нона — не беларускае імя, і выправіла яго на Ніна.

Нонай Іванаўнай звалі маю маці.

Мама з татам пазнаёміліся ў Магілёве ў 1939 годзе, а ў 1945-м бацька пераехаў на працу ў Акадэмію навук. Яны пабудавалі дом, вялі гаспадарку, сустракалі гасцей, а іх заўсёды было вельмі шмат. Хто толькі ні быў у нас на кухні: і Навуменка, і Караткевіч, і, вядома ж, Дубоўка, і Лойка.

Яны былі смелыя і моцныя. Але калі ў нашым доме ўпершыню з'явіўся Дубоўка, нас, дзяцей, выставілі за дзверы, каб не пачулі недазволенага і не «вынеслі» на вуліцу. Мы не ведалі, хто гэта. І толькі ў старэйшых класах мне расказалі пра Дубоўку, патлумачылі, што кожнае маё слова можа ўчыніць гора гэтаму чалавеку. І я ведала, што нясу адказнасць за нашых гасцей.

## РУКІ ПРАЦАЎНІКА

Калі Дубоўка быў у высылцы — у Яранску, у Чабаксарах, у Почаце — яны з жонкай заўсёды мелі свой гародзік, нешта саджалі, ён прывозіў невядома адкуль яблыні, прышчапляў сам. Мае бацькі таксама пабудавалі сваімі рукамі дом, мелі гародзік і сад… Гэта былі людзі глыбінна ад зямлі.

Калі ўпершыню нас, дзяцей, пасадзілі за адзін стол разам з Дубоўкам, я звярнула ўвагу на яго зусім не пісьменніцкія рукі. Дужыя рукі працаўніка. Потым бацькі расказалі, колькі давялося нашаму госцю перажыць у ссылцы і лагеры, колькі фізічнай працы перарабіць — будаўнік, пячнік, цясляр, муляр, садоўнік. Ёсць такое слова «лад». Яны аднолькава разумелі лад жыцця, тыя сапраўдныя крыніцы, якія даюць чалавеку сілу ў любых выпрабаваннях. Супадалі стаўленне да людзей, літаратуразнаўчыя падыходы, літаратурныя погляды.

Дубоўка быў вельмі шчыры, добра адчуваў душу іншага чалавека. Дзякаваў людзям, якія падтрымалі яго, вярнулі ў літаратуру. Для прыкладу згадаю гісторыю пра ананасы. Неяк мы з сяброўкай адпачывалі ў санаторыі ў Звенігарадзе. Уладзімір Мікалаевіч запрасіў нас у госці — яны з Марыляй Пятроўнай жылі ў Новых Чаромушках, у малюсенькай хрушчоўцы. Ліпень быў вельмі спякотны. А Дубоўка — стары ўжо чалавек, 72 гады — раніцай паехаў з Чаромушак у рэстаран «Гавана», замовіў ананасы, у абед вярнуўся замову забіраць. Выразы пачаставаць нас заморскім фруктам!

Бацька быў таксама шчодрым. Мама смяялася, што ён палову заробку раздаваў: то студэнту стыпендыю не далі, то ў кагосьці з аспірантаў боты знасіліся…

Цяпер я пераасэнсоўваю сустрэчы з Дубоўкам. А ў дзяцінстве, у юнацтве ўспрымала яго проста як добрага знаёмага, як сябра свайго бацькі. Маё прачытанне Дубоўкі пачалося ў 1964 годзе з перакладаў санетаў Шэкспіра. Дубоўка падараваў кнігу і сказаў, што шэсцьдзясят шосты санет — яго любімы, бо гэта энцыклапедыя жыцця як у часы Шэкспіра, так і цяпер. Потым было знаёмства з іншымі кнігамі паэта, дыпломная работа па наватворах Дубоўкі.

Сёння падаецца, што такіх людзей, як мой бацька, як мама, як Уладзімір Дубоўка, ужо няма. Але, я мяркую, людзі заўсёды аднолькавыя, проста бывае такі час, такія падзеі, калі асоба неяк асабліва раскрываецца...

**Ганна АНІСЬКОВА**

Кніжны свет
17 ліпеня 2015 г.

*Унікальны праект*

# Класіка ў кішэні

Прэзентацыя серыі «Мая Беларуская Кніга» прайшла ў сталічнай кнігарні Oz.by. Праект адметны. Мяркуйце самі: на паліцах айчынных кнігарняў з'явілася адразу 26 кніг беларускай класікі, выдадзеных у кішэнным фармаце. Наклад кожнай — ад 1500 да 2500 экзэмпляраў, агульны тыраж усёй серыі — больш як 60 тысяч асобнікаў. Праект рэалізаваны выдавецтвам «Папуры» пры падтрымцы кнігарні Oz.by, інтэрнэт-партала tut.by і ААТ «Белкніга».

Ужо колькі гадоў айчынныя кнігагандляры адзначаюць высокую цікавасць спажыўцоў да беларускай класікі. Гаворка ідзе пра кнігі, што вывучаюцца ў школьнай і ўніверсітэцкай праграмах па беларускай літаратуры і якія даўно палюбіліся чытачам. Але многія з класічных твораў не перавыдаваліся цягам доўгіх гадоў, па гэтай прычыне іх не хапае ў школьных і публічных бібліятэках, чытачы не могуць знайсці іх на паліцах кнігарняў. Некаторыя ж тэксты беларускіх класікаў застаюцца невядомымі публіцы і праз адсутнасць шырокай інфармацыі, не знаходзяць свайго патэнцыйнага чытача. Пра гэта распавяла падчас прэзентацыі дырэктар кнігарні «Акадэмкніга» Вольга Глухоўская.

Але цяпер многія пытанні вырашаныя. Так, у серыі «Мая Беларуская Кніга» выйшлі творы Янкі Купалы і Якуба Коласа, Максіма Багдановіча і Вацлава Ластоўскага, Уладзіміра Караткевіча і Івана Шамякіна, Вячаслава Адамчыка і Васіля Быкава… Серыя стане для многіх беларусаў дзвярыма ў свет айчыннай літаратуры, адкрые новыя імёны і творы. Мала хто ведае імя Саламеі Пільштыновай і яе выдатную кнігу мемуараў «Авантуры майго жыцця», мала хто чуў пра беларускаяўрэйскага пісьменніка, які пісаў на ідыш, Майсея Кульбака і яго кнігу «Зельманцы».

Адметна, што ўсе кнігі серыі маюць аднолькавы кошт — да верасня іх можна набыць у кнігарнях за 55 тысяч рублёў — і афармленыя яны таксама ў адным стылі. Фармат «покет» робіць выданні лёгкімі, іх зручна браць у падарожжы ці проста мець заўсёды з сабой у сумцы і чытаць у транспарце.

Над распрацоўкай канцэпцыі серыі і спіса беларускіх класічных твораў, што мусілі пабачыць свет у яе межах, працавала рэдакцыйная калегія, у якую ўвайшлі вядомыя пісьменнікі, перакладчыкі, выдаўцы, літаратуразнаўцы. Кожны з сяброў рэдкалегіі склаў свой «залаты спіс» з трох дзясяткаў кніг, і на аснове гэтых прапаноў быў сабраны агульны пералік 26 выданняў «Маёй Беларускай Кнігі». Сябар рэдкалегіі серыі, доктар філалагічных навук Міхась Тычына мяркуе, што наноў выдадзеныя творы будуць цікавымі чытачам, варта толькі прыцягнуць іх увагу да гэтых кніг. Міхась Аляксандравіч прыгадаў, як у дзяцінстве разам з сябрамі зачытваўся вершаванымі казкамі і апавяданнямі Якуба Коласа. Гэтыя творы знойдуць сцежку і да сэрцаў сучасных дзяцей і падлеткаў.

Выдаўцы абяцаюць, што на 26 кнігах, якія ўжо пабачылі свет у межах серыі «Мая Беларуская Кніга», праект не будзе завершаны і чытачоў яшчэ чакаюць новыя выданні беларускай класікі ў кішэнным фармаце.

Набыць кнігі серыі можна ўжо не толькі ў Мінску, але і ва ўсіх кнігарнях сеткі «Белкніга», якія размешчаны ў розных рэгіёнах краіны.

**Марына ВЕСЯЛУХА**

# Летапіс гродзенскай песні

Прэзентацыя кнігі Марыны Петуховай і Марка Копа «Гродзеншчына, якая спявае. Старонкі гісторыі харавой культуры» адбылася ў Гродзенскім абласным метадычным цэнтры народнай творчасці. Ладзіў мерапрыемства аддзел краязнаўства Гродзенскай абласной навуковай бібліятэкі імя Я. Ф. Карскага.

Упершыню ў Беларусі з'явілася маштабнае даследаванне па гісторыі станаўлення і развіцця харавой культуры рэгіёна. Выданне гэтай працы абвясціла і пра першую даследчую дынастыю на гарадзенскай зямлі. Бацька і дачка падрыхтавалі ўнікальную кнігу, якая адразу ж стала бібліяграфічным рарытэтам.

Марк Коп — культурны дзеяч, кампазітар, педагог. Амаль 30 гадоў узначальваў абласны метадычны цэнтр народнай творчасці, 10 год выкладаў у Гродзенскім культасветвучылішчы. У кампазітарскім арсенале Марка Аляксандравіча — каля 200 песень. Ініцыятар і кіраўнік клуба творчай інтэлігенцыі «Грані» Гродзенскага абласнога метадычнага цэнтра народнай творчасці. Па выніках II Усебеларускага фестывалю народнага мастацтва «Беларусь — мая песня» клубу, які стаў лаўрэатам свята, прысвоена ганаровае званне народнага.

Марына Петухова годна працягвае творчыя традыцыі бацькі. Працавала артысткай хору Белдзяржтэлерадыёкампаніі пад кіраўніцтвам народнага артыста СССР і БССР Віктара Роўды, Гродзенскай капэлы, з 1998 года — выкладчык харавых дысцыплін Гродзенскага музычнага каледжа. У 2008 годзе ўганараваная званнем лаўрэата прэміі імя А. І. Дубко Гродзенскага аблвыканкама «За творчыя дасягненні ў галіне культуры і мастацтва» ў намінацыі «Настаўнік года».

Яе намаганнямі быў створаны маладзёжны акадэмічны хор «Акварэль», уганараваны званнем народнага, мастацкім кіраўніком і дырыжорам якога Марына Маркаўна была на працягу васьмі гадоў. Гэты песенны калектыў — уладальнік Гран-пры сярод замежных хароў VIII Міжнароднага фестывалю-конкурсу сакральнай музыкі «Lapskie Te Deum» (г. Лапы, Польшча). Па класе вакалу і пастаноўкі голасу выхаванцы Марыны Петуховай неаднаразова станавіліся пераможцамі міжнародных конкурсаў.

Новая кніга — цікавы экскурс па старонках гісторыі харавога мастацтва на Гродзеншчыне. Яна дае магчымасць пазнаёміцца з лепшымі харавымі калектывамі рэгіёна, з геаграфіяй іх міжнародных гастроляў, шматлікіх фестываляў і конкурсаў. Упершыню асвятляецца роля інстытута шэфства вядомых дзеячаў культуры над мастацкімі калектывамі. Асобныя раздзелы распавядаюць пра «візіткі» харавога мастацтва рэгіёна: Дзяляціцкую народную харавую капэлу, Запольскі народны хор, народны ансамбль песні і танца «Нёман». Асаблівая ўвага надаецца фарміраванню гродзенскай вакальна-харавой і кампазітарскай школы.

Уражаннямі пра кнігу падзяліліся знаўца беларускай культуры, прафесар Гродзенскага дзяржаўнага ўніверсітэта Аляксей Пяткевіч, вядомыя дзеячы айчыннай культуры Зінаіда Арцюховіч, Алесь Лойка, намеснік старшыні Гродзенскага абласнога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі Дзмітрый Радзівончык ды іншыя.

**Любоў ТУРМАСАВА**

# «Адзіноты пажоўклыя дні»



**«Узрост любой жанчыны — маладосць!» Так мог сказаць толькі паэт. Прычым тонкі лірык, шчыры чалавек. Менавіта такім і з'яўляецца паэт-бард Дзмітрый Пятровіч.**

Ён даўно ўжо зарэкамендаваў сябе арыгінальным празаікам, які любіць жыццё і ўсё прыгожае ў ім. Многім чытачам вядома кніга прозы Дзмітрыя Пятровіча «Белая Жанчына». Другое, дапоўненае, выданне зборніка празаічных твораў пабачыла свет у 2013 годзе.

Аўтар шматлікіх публікацый у часопісе «Маладосць», «Роднае слова», «Бярозка», калектыўных зборніках, альманахах і іншых выданнях, Дзмітрый Пятровіч выдаў у 2010 годзе зборнік паэзіі «Белая квецень кахання». І вось новая паэтычная кніжка — «Адзіноты пажоўклыя дні», якая пабачыла свет летась у Выдавецкім доме «Звязда» і быццам працягвае пачатую ў першым зборніку даверлівую размову з чытачом пра вечныя чалавечыя каштоўнасці — Радзіму, Маці, Дабрыню, Пяшчоту.

У новай кнізе заўважны творчы рост паэта, пашырэнне яго тэматычнага дыяпазону. Зборнік вершаў складаецца з некалькіх раздзелаў, якія ўключаюць творы адпаведнай тэматыкі: «Пакуль са мной радзіма — я жыву...», «Шумяць асеннія бары», «Калісьці ўпершыню пабачыў Вас», «Адзіноты пажоўклыя дні», «Пакуль баліць душа паэта».

У творах, прысвечаных роднай старонцы — Заслаўю і ваколіцам — аўтар выказвае захапленне прыгажосцю і слаўнай гісторыяй Бацькаўшчыны, а яшчэ радасць жыцця. Узнёсласць, хваляванне, закладзеныя ў паэтычных радках пра родную прыроду, перадаюцца і чытачу. Сапраўдны гімн усяму жывому на зямлі праспяваў паэт у вершы «Калі нарэшце кветкі адцвітаюць...», прысвечаным памяці Янкі Сіпакова.

Не пакіне чытача абыякавым і цыкл вершаў, прысвечаных роднай мове. «Мова — сімвал беларусаў, // Нашых продкаў волевыяўленне, // Бохан хлеба на льняным абрусе, // Чыстыя гаючыя крыніцы, // І «курлы» птушынае пад восень...» Паэт заклікае:

*Хай крочаць па свеце Купала і Колас*
*І ўсе паважаюць братоў-беларусаў!*

Упэўнена сцвярджае:

*І будзе вечна жыць жывое слова...*

Паэзія Дзмітрыя Пятровіча прываблівае свежасцю, бадзёрасцю духу, аптымізмам.

**Міхась СЛІВА**

# Не стала паэтэсы Маі Львовіч

**13 ліпеня 2015 года пайшла з жыцця ўкраінская паэтэса, перакладчыца Мая Львовіч, якая нарадзілася 23 красавіка 1933 года ў Адэсе. Яе бацькі паходзілі з Гомельшчыны. Пэўна, гэтая акалічнасць у значнай ступені і паўплывала на тое, што Мая Давыдаўна зацікавілася беларускай літаратурай.**

Спярша яна пісала вершы па-руску, пасля — на ўкраінскай мове. А затым і па-беларуску. Як вынік такой творчай работы — кнігі паэзіі на ўкраінскай і беларускай мовах «У зязюльчыным бары» (2002) і «Жывая» (2008). Мая Львовіч пераклала на ўкраінскую мову дзве кнігі беларускай прозы, вершы Янкі Купалы, Якуба Коласа, Максіма Танка, Уладзіміра Караткевіча, Рыгора Барадуліна, Аляксея Пысіна, Ніны Мацяш і шмат яшчэ каго з майстроў прыгожага беларускага пісьменства. Па праву Маю Львовіч ва Украіне называлі сувязной з беларускай літаратурай.

Шмат хто з беларускіх пісьменнікаў ліставаўся з Маяй Львовіч, падсілкоўваў яе звесткамі, тэкстамі, якія сведчылі пра сучаснае развіццё беларускай літаратуры. Найперш гэта былі Адам Восіпавіч Мальдзіс, Сяргей Сцяпанавіч Панізнік. Відаць, яшчэ прыйдзе той час, калі і ў Беларусі вартым чынам адзначаць Маю Львовіч, выдадуць яе ёмістым фаліянтам.

**Сяргей ШЫЧКО**

# Успомні імя маё...

Словы «Мы — іншыя, зусім не падобныя да тых, чыё дзяцінства прыйшлося на ваенныя гады, але нешта там, глыбока ў сэрцы, радніць нас, напэўна, любоў да сваёй зямлі, простае чалавечае жаданне шчасця...» маглі б стаць эпіграфам да кнігі, пра якую пойдзе гаворка.

Зборнік «Ніколі не забудзем. Унукі пра вайну: апавяданні, вершы, нарысы, эсэ», што выйшаў у Выдавецкім доме «Звязда» — «галерэя» лепшых твораў дзяцей і падлеткаў, якія сталі ўдзельнікамі конкурсу, прысвечанага 70-й гадавіне вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў і Перамозе савецкага народа ў Вялікай Айчыннай вайне. Сувязь паміж пакаленнямі жывая...

У аснове кожнай творчай працы — рэальныя ўспаміны відавочцаў ваенных гадоў: былых франтавікоў, медыкаў, партызан, працаўнікоў тылу, жанчын, дзяцей і мужчын — тых, у каго вайна забрала самае каштоўнае — каханне, сям'ю, надзею, дзяцінства. Кожная гісторыя поўніцца болем страт і радасцю перамогі, да самых глыбінь закранае душу. Паказвае, як важна заставацца чалавекам у любых умовах.

Мая бабуля маленькай была сагнаная ў Германію, а дзядуля, зусім юны, даглядаў вялікую гаспадарку, маму і сястру, атрымаў тры кулі, адна з якіх так і засталася амаль ля сэрца, у лёгкіх... Напэўна, усе гэтыя пачуцці блізкія кожнаму беларусу, як і жыхарам іншых краін, якія закранула фашысцкая агрэсія. Таму ці трэба казаць, што кніга знойдзе свайго чытача?




Усе апавяданні, нарысы, эсэ і вершы падмацаваныя фотаздымкамі як ветэранаў, так і маладых аўтараў, пачынаючых паэтаў, празаікаў, эсэістаў, карэспандэнтаў і проста ўдзячных нашчадкаў. У выданне ўвайшлі 73 творы, а ўсяго іх было каля сямісот! І кожнаму дзіцяці было пра што расказаць. Існуе і аўдыякніжка, якая выйшла нароўні з друкаванай, для людзей з парушэннем зроку.

Бачна, што дзеці мірнага часу, якія напісалі пра лёс сваіх продкаў, вельмі ўважліва ставяцца да кожнага факта з ваеннага мінулага, шукаюць найбольш дакладныя метафары для апісання гераічных учынкаў.

У кнізе ўсё праўда, а чытаеш — паверыць нельга. Ну не прымае свядомасць столькі болю і несправядлівасці! Вось баец стаіць у акопе і невядомая сіла прымушае яго зрабіць некалькі крокаў убок за імгненне да разрыву снарада... Дзеці ў пошуках грыбоў і ягад падрываюцца на фашысцкіх мінах, закапаных вакол іх роднай вёскі… А ўявіце такое: «...Твой блізкі і родны чалавек засынае побач з табой, вы стараецеся сагрэць адзін аднаго на яловых лапках усю доўгую зімовую ноч... а раніцай брацік ўжо не прачынаецца... Ён як быццам бы побач, жывы, толькі не кажа, не плача, не патрабуе наіўна, падзіцячы, у мамы есці, як быццам мама можа вырашыць усе праблемы на свеце...».

Многа слоў у зборніку прысвечана вогненным вёскам, расстрэлам нават маладых жанчын з немаўлятамі на руках, тым, каго забіралі ў Германію на цяжкія працы, тым, хто не вярнуўся з бясконцых дарог, агорнутых вогнішчам бяды і смерці…

Дарэчы, адзін твор пачынаецца размовай бабулі з унучкай, якая не разумее, чаму самая смачная ежа для старэнькай — хлеб з маслам. Высвятляецца, што падчас вайны яна, тады яшчэ дзяўчынка, збегла з сям’ёй у лес, потым іх знайшлі фашысты, загналі ў сарай. А раніцай адзін з немцаў, убачыўшы малую са светлымі валасамі і блакітнымі вачыма, даў ёй акрайчык хлеба з маслам… Мабыць, у яго на радзіме засталася падобная да яе дачушка.

Сведчанняў, якія не могуць пакінуць чытача абыякавым, шмат: «Усё, што засталося на памяць маленькай Дзіначцы ад бацькі, — гэта фатаграфія і некалькі лістоў-трыкутнікаў. Я не хачу, каб вайна яшчэ раз паўтарылася і каб дзеці заставаліся без бацькі або маці. Няхай заўсёды будзе мір на Зямлі».

Людзі ваеннага пакалення асаблівыя. Зведаўшы жахі, яны захавалі ў душы веру ў будучыню, справядлівасць, ахвяраваўшы сабой дзеля іншых. Ці зможам так мы?

Колькі б кніг ні выходзіла пра вайну — ні адна не стане лішняй. Гэта даніна павагі тым, дзякуючы каму мы жывём пад мірным небам, вучымся і працуем, усміхаемся і любім...

**Марыя ВОЙЦІК**



# Сон за калючым дротам

Не існуе даследаванай да канца тэмы пра вайну. Яна працягвае здзіўляць, шакіраваць, узрушаць, патрабаваць новых пошукаў праўды. Так паступілі і аўтары кнігі «Цяжкая ноша палону: ваеннапалонныя і інтэрнаваныя Другой сусветнай вайны на тэрыторыі Беларусі 1939—1951 гг.». Колькасць дакументальных фактаў, лічбаў, звестак, а таксама іх аналіз кажуць пра тое, што выданне, якое пабачыла свет ў Выдавецкім доме «Звязда», — унікальны вынік шматгадовых даследаванняў.

«"Вязні вайны" розных ідэалагічных сістэм, нацыянальнасцей, веравызнанняў, якія апынуліся ў вогненным кругавароце тых страшных гадоў і якія сталі яе ахвярамі, з'яўляюцца галоўнымі героямі кнігі», — гаворыцца ў прадмове. У кнізе выкарыстана шмат унікальных матэрыялаў з недаступных раней крыніц. Многія звесткі публікуюцца ўпершыню.

Праца Анатоля Шаркова і Алены Мох-Дакуновай сапраўды фундаментальная, таму і не простая для чытання. Не варта чакаць ад яе лёгкасці стылю, метафар і іншых аздоб мастацкай літаратуры. Апавяданне аб'ектыўнае, месцамі сухаватае, але жанр навукова-папулярнай літаратуры якраз і ўключае ўсе гэтыя «якасці».

Не паспеўшы пераадолець першыя некалькі старонак, ловіш сябе на думцы, што вось ты, мірны чытач, заклапочаны спакойнай працай і паходамі ў краму, стаіш за высокай агароджай з калючага дроту, у лахманах, без права на ежу і цяпло. Складана паверыць? Паспрабуйце пераадолець сябе, каб адчуць: як там, на вайне, было на самай справе.

Нягледзячы на тое, што выданне разлічана на шырокае кола чытачоў, яно зацікавіць у першую чаргу гісторыкаў, навукоўцаў, выкладчыкаў і студэнтаў адпаведных спецыяльнасцей.




«1 верасня 1939 года ў 4 гадзіны 45 хвілін па сярэднееўрапейскім часе нацысцкая Германія распачала ўзброеную агрэсію супраць Польшчы», — распавядаецца ў выданні. Даследчыкі, апрача іншага, узгадваюць момант капітуляцыі Варшавы і польскай арміі, «акунаюць» чытача ва ўмовы разгрому і распаду дзяржавы. Гаворыцца і пра паход войскаў Чырвонай Арміі на тэрыторыю Заходняй Беларусі і Заходняй Украіны, яго вынік. Але гэта толькі пачатак... У кантэксце наступных раздзелаў падзеі разгортваюцца з усё больш разбуральнай сілай.

Аўтары не выкарыстоўваюць у тэксце лірычных абаротаў — буру эмоцый здольныя выклікаць шырокамаштабныя звесткі. Возьмем, напрыклад, інфармацыю пра тое, якая працэдура чакала палонных адразу пасля арышту. Цікава, напрыклад, што ў немцаў канфіскоўвалі літаратуру, ігральныя карты або фотаапараты, але пакідалі гадзіннікі, запалкі і прадметы рэлігійнага культу. А ў некаторых лагерах зняволеныя арганізоўвалі нешта накшталт рынку — абмену прадуктаў, адзення і цыгарэт на хлеб і бульбу. Каб выжыць, умельцы выраблялі абутак з гумовых міжвагонных тармазных рукавоў, клеілі галошы з аўтамабільных камер, майстравалі драўляныя цацкі, шкатулкі, прадметы побыту з саломкі... Такіх падрабязных і нечаканых звестак у выданні нямала.

Шмат гаворыцца пра ўмовы ўтрымання ваеннапалонных і інтэрнаваных, выкарыстанне іх у якасці працоўнай сілы, пра стварэнне палоннымі падпольных камітэтаў, іх спробах да ўцёкаў і духоўным супраціўленні. Аператыўна-вышуковая дзейнасць савецкіх спецслужбаў па выяўленні шпіёнаў таксама не застаецца без увагі — як і спецыфіка судовых працэсаў над былымі вайскоўцамі. Дакладна, тут шмат таго, пра што вы не ведалі!

Дарэчы, на працягу ўсёй кнігі ўмовы заключэння салдат і афіцэраў Чырвонай Арміі ў нямецкіх лагерах супрацьпастаўляюцца лёсу фашыстаў пад патранажам устаноў і супрацоўнікаў НКУС-МУС СССР. Параўнанне, як няцяжка здагадацца, не на карысць першых... Грубая палітыка адкрытага гвалту і тэрору фашыстаў відавочна кантрастуе са стаўленнем савецкіх уладаў да нявольнікаў, якія, між іншым, хаця б мелі права на жыццё, а за парушэнне правілаў атрымлівалі не кулю ў лоб, а дысцыплінарнае спагнанне. Шмат хто ўдзельнічаў у культурна-асветніцкай працы, наведваў лекцыі, мітынгі, дэманстрацыі кінафільмаў пра дэмакратыю і антыфашызм. Нават ставілі спектаклі, спявалі песні, вывучалі мову. Розніца паміж савецкім і нацысцкім стаўленнем да людзей каласальная! У кнізе пра гэта кажуць гістарычныя факты, а не суб’ектыўныя звесткі.

Пазіцыя савецкага кіраўніцтва датычна да вызваленых палонных — асобная балючая тэма на старонках кнігі. Перамога не азначала збавенне для тысяч вязняў нацысцкіх лагераў. На радзіме іх чакалі недавер, допыты ў фільтрацыйных лагерах НКУС, высылка... Воінаў, якія на сабе адчулі жахі першых варожых удараў, разглядалі як здраднікаў Радзімы.

Характэрна, што ў кнізе сустракаюцца ўспаміны не толькі ваеннапалонных і інтэрнаваных, але і тых, хто іх ахоўваў. Гэта — лепшы дадатак для фактаграфічнага матэрыялу разам з фотаздымкамі і падрабязнай даведкай аб месцах прымусовай дыслакацыі.

Да глыбіні кранаюць урыўкі з ліста былога ваеннага разведчыка: «Раптам немец спыніўся спінай да ветру, павярнуў да мяне твар з пачырванелымі і слязлівымі вачыма, з намерзлымі ледзяшамі заснежаных навіслых векаў. Паказваючы знакамі, размахваючы рукамі, стаў асядаць на дарогу. Я зразумеў, што далей ён ісці не можа пад няспынным напорам зімовага марознага дыхання смерці... Куды ісці з ім, дзеля чаго ўсё гэта? Навошта ён тут, на гэтай далёкай ад яго радзімы зямлі Беларусі? Хто ён: рабочы, баўэр, паэт, журналіст, музыка, камуніст, фашыст, — хто? Мы доўга глядзелі адзін на аднаго, не вымавіўшы ні гуку, нібы глуханямыя. Ды мы і на самай справе былі імі, не ведаючы мовы, — два чалавекі, якія замярзаюць, заблудзіліся ў гэтай завеі... бяда зблізіла нават заклятых ворагаў... З-за пазухі я дастаў пайку хлеба, разламаў, аддаў другую палову палоннаму...».

Аўтары не лічаць сваю кнігу вычарпальнай, хоць яна і ахоплівае калі не ўсе, то асноўныя катэгорыі ваеннапалонных і інтэрнаваных, якія знаходзіліся на тэрыторыі Беларусі, зыходзячы з назвы даследавання, на працягу сямі гадоў — падчас і пасля вайны.

Вялікая ўвага нададзена нарматыўна-прававой базе, якая рэгулявала пытанні палону ў СССР, яе рэфармаванню. Упраўленню па справах ваеннапалонных НКУС СССР надаецца асаблівы акцэнт у выданні, бо менавіта ў руках супрацоўнікаў гэтай арганізацыі быў кантроль за зняволенымі.

Што прадстаўлялі сабой прыёмныя пункты, стацыянарныя, перасыльныя і працоўныя лагеры як у савецкім, так і ў фашысцкім «фармаце»? Хто ахоўваў нявольнікаў і сачыў за распарадкам іх дня? Які быў іх побыт, нормы паводзін? Што забаранялася, а што было дазволена? Усе гэтыя пытанні раскрыты даволі падрабязна.

Даследчыкі звяртаюцца да праблем не толькі мінулых дзён, але і сучаснасці. Кажуць пра актуальную для нашага часу праблему высвятлення лёсаў тых, хто прапаў без вестак, догляд за магіламі загінуўшых на тэрыторыях Беларусі і Германіі.

Складаная і супярэчлівая карціна паўстае перад вачыма чытачоў, закліканая не проста нагадаць пра жахі гісторыі, а зразумець: чаму гэта ўсё адбылося з намі?

**Марыя ВОЙЦІК**

# Навінкі кнігавыдання

### Мастацкая літаратура для дзяцей і юнацтва

**Ситников, Ю.** Улика на память: [повесть: для среднего и старшего школьного возраста] / Юрий Ситников. — Минск: Букмастер, 2015. — 253 с. — 3050 экз. — ISBN 978-985-549-949-8 (в пер.).

**Сказки на ночь:** [для дошкольного и младшего школьного возраста / составитель Сергей Кузьмин]; художники: Виктор Чайчук и Александр Ткачук. — Минск: Книжный Дом, 2015. — 223 с. — 3050 экз. — ISBN 978-985-17-0832-7 (в пер.).

**Старые добрые сказки:** [для дошкольного и младшего школьного возраста / составитель Сергей Кузьмин]; художники: Виктор Чайчук и Александр Ткачук. — Минск: Книжный Дом, 2015. — 223 с. — 3050 экз. — ISBN 978-985-17-0831-0 (в пер.).

**Стихи в картинках В. Сутеева:** [для дошкольного возраста]. — Москва: АСТ, 2014. — 126 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 3000 экз. — ISBN 978-5-17-078497-4 (АСТ). — ISBN 978-985-18-2608-3 (Харвест) (в пер.).

**Стихи и сказки для малышей в рисунках В. Сутеева:** [для дошкольного возраста: (для чтения взрослыми детям)]. — Москва: АСТ, 2014. — 93 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 5000 экз. — ISBN 978-5-17-070803-1 (АСТ). — ISBN 978-985-18-2177-4 (Харвест) (в пер.).

**100 песенок, скороговорок и потешек для малышей:** [для дошкольного и младшего школьного возраста / составитель В. Г. Дмитриева; иллюстрации: Емельянова С. В.]. — Москва: АСТ, 2014. — 191 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 3000 экз. — ISBN 978-5-17-085265-9 (АСТ). — ISBN 978-985-18-3436-1 (Харвест) (в пер.).

**Сутеев, В. Г.** Все сказки и картинки: [сказки, сказочные истории, рассказы, повесть-сказка: для детей до 3 лет: (для чтения взрослыми детям)] / В. Сутеев. — Москва: АСТ, 2015. — 475 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 7000 экз. — ISBN 978-5-17-077388-6 (АСТ). — ISBN 978-985-18-3125-4 (Харвест) (в пер.).

**Успенский, Э. Н.** Зима в Простоквашино: [для дошкольного возраста / Э. Успенский; автор сценария Э. Успенский; художники мультфильма: Аркадий Шер, Александр Винокуров]. — Москва: АСТ, 2014. — 47 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 3000 экз. — ISBN 978-5-17-072886-2 (АСТ). — ISBN 978-985-18-3548-1 (Харвест) (в пер.).

**Успенский, Э. Н.** Каникулы в Простоквашино: [для младшего школьного возраста] / Э. Успенский; [художники-постановщики: Левон Хачатрян и Аркадий Шер]. — Москва: АСТ, 2014. — 46 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 5000 экз. — ISBN 978-5-17-080006-3 (АСТ). — ISBN 978-985-18-2181-1 (Харвест) (в пер.).

**Успенский, Э. Н.** Удивительные истории в стихах: [для младшего школьного возраста] / Э. Успенский; художник О. Зотов. — Москва: АСТ, 2014. — 78 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 7000 экз. — ISBN 978-5-17-087082-0 (АСТ). — ISBN 978-985-18-3410-1 (Харвест) (в пер.).

**Храбрый портняжка:** [для дошкольного и младшего школьного возраста / художник А. Бушкин]. — Минск: Букмастер, 2014. — 18 с. — 7000 экз. — ISBN 978-985-549-858-3.

### Літаратура Беларусі на рускай мове

**Бурдыко, Л. Г.** Мои друзья: стихи для детей / Людмила Бурдыко; [автор предисловия Боровикова Р.; художник А. А. Захарова]. — Минск: Яцкевич А. Г., 2014. — 40 с. — 99 экз. — ISBN 978-985-7117-01-7.

**Карнаухова, И. А.** Полосатые истории: [рассказы-сказки] / Ирина Карнаухова. — Минск: Ковчег, 2014. — 35 с. — 200 экз. — ISBN 978-985-7086-67-2.

**Матвеенко, А. В.** Спасибо, Марта!: животные рядом с нами: рассказы: [для младшего и среднего школьного возраста] / Андрей Матвеенко, Татьяна Моисеева; [художник Виктор Макаренко]. — Гомель: Барк, 2014. — 107 с. — 1000 экз. — ISBN 978-985-7065-23-3 (в пер.).

**Пашкевич, К. В.** Новый год у тети Елки и другие сказки: [для младшего школьного возраста] / Карина Пашкевич; [иллюстрации автора]. — Минск: Беларусь, 2014. — 190 с. — 2000 экз. — ISBN 978-985-01-1103-6 (в пер.).

**Рысаева, Н. С.** Шебуршуша и ее друзья: сказки / Наталья Рысаева; [художник И. В. Афанасьева]. — Минск: Адукацыя і выхаванне, 2014. — 63 с. — 2000 экз. — ISBN 978-985-471-729-6.

**Сперанская, Л. Ю.** Брусничный пирог: сказка: [для дошкольного и младшего школьного возраста] / Лариса Сперанская; [художник Л. Ю. Сперанская]. — Минск: Беларуская Энцыклапедыя, 2014. — 127 с. — 2000 экз. — ISBN 978-985-11-0803-5.

**Сучкова, Т. А.** О госпоже Печали и Настиной улыбке: сказки: [для младшего школьного возраста] / Татьяна Сучкова; [художники: Елена Захаревич, Анна Русецкая]. — Минск: Беларуская Энцыклапедыя, 2014. — 61 с. — 2000 экз. — ISBN 978-985-11-0810-3.

**Ялькова, Л. А.** Ягодки от мишки: стихи для детей / Людмила Ялькова; художник Виктор Макаренко. — Гомель: Барк, 2014. — 67 с. — 700 экз. — ISBN 978-985-7065-24-0 (в пер.).

### Беларуская літаратура

**Атрошчанка, Г. М.** Усмешка вясны: вершы для дзяцей / Ганна Атрошчанка. — Мінск: Ковчег, 2014. — 23 с. — Частка тэксту на рускай мове. — 99 экз. — ISBN 978-985-7086-54-2.

**Вярбіцкі, І. І.** Імкненне: зборнік паэзіі і прозы: [для дзяцей] / Іван Вярбіцкі. — Слонім: Слонімская друкарня, 2014. — 187 с. — 300 экз. — ISBN 978-985-7027-18-7.

**Зборнік апавяданняў для пазакласнага чытання вучняў пачатковай школы** / [складальнікі: Л. Ф. Кузняцова, Н. У. Антонава]. — Мінск: Беларусь, 2014. — 270 с. — 1500 экз. — ISBN 978-985-01-1107-4 (у пер.).



***Карлюкевіч, А. Прыгоды Максімкі на Бацькаўшчыне і ў розных краінах свету: [аповесць-казка: для малодшага школьнага ўзросту] / Алесь Карлюкевіч; мастак Аксана Аракчэева. — Мінск: Беларуская Энцыклапедыя, 2014. — 126 с. — 2000 экз. — ISBN 978-985-11-0752-6.***

*Якога колеру вада ў возеры Байкал? Ці можа чалавек пераплысці Ангару? Якія птушкі лятаюць над Памірам і колькі кіламетраў праходзіць па пустыні Каракум вярблюд без ніводнага глытка вады? На гэтыя і іншыя пытанні цікаўных маленькіх чытачоў з задавальненнем адкажа Максімка Мінскі — герой аповесці-казкі Алеся Карлюкевіча. Думаецца, з Максімкам пасябруюць многія. Ён вучыцца ў 4 класе, любіць ганяць мяч на школьным стадыёне, а ўзімку — гуляць у хакей. Але самы любімы занятак нашага героя — падарожжы… у думках, марах, нават у снах.*

**Карлюкевіч, А.** Мудры Шубуршун: аповесць-казка, апавяданні, казкі / Алесь Карлюкевіч. — Мінск: Адукацыя і выхаванне, 2014. — 119 с. — 1000 экз. — ISBN 978-985-471-740-1 (у пер.).

**Ліхадзіеўская, А. А.** Казкі / Алена Ліхадзіеўская. — Мінск: Кнігазбор, 2014. — 39 с. — 200 экз. — ISBN 978-985-7089-90-1 (у пер.).

**Сліва, М.** Як кнігі дзяўчынку выхавалі: апавяданні, казкі: для дзяцей малодшага школьнага ўзросту / Міхась Сліва. — Мінск: Народная асвета, 2014. — 46 с. — 3000 экз. — ISBN 978-985-03-2315-6.

**Солахаў, А. В.** Колькі хусцінак у дзяўчынак?: задачы ў вершах / Аляксей Солахаў. — Мінск: Зорны Верасок, 2014. — 23 с. — 300 экз. — ISBN 978-985-7068-19-7.

**Таямніцы дзеда Усяведа:** апавяданні, загадкі, вершы, задачкі / [укладальнік: Алена Левіціна]. — Мінск: Адукацыя і выхаванне, 2014. — 62 с. — 2000 экз. — ISBN 978-985-471-723-4.

**Чарняк, В. І.** Бацькаў дар; Сынок-з-кулачок: вершаваны пераклад беларускіх народных казак / Васіль Чарняк; мастак Віктар Макаранка. — Гомель: Барк, 2014. — 71 с. — 1000 экз. — ISBN 978-985-7065-22-6 (у пер.).

**Ягоўдзік, У. І.** Медзяны Дзядок: аповесць-казка і пераказаў вязка: [для малодшага і сярэдняга школьнага ўзросту] / Уладзімір Ягоўдзік; мастак Алена Лось. — Мінск: М. Ягоўдзік, 2014. — 141 с. — 2200 экз. — ISBN 978-985-6691-44-0 (у пер.).

**Якімовіч, А. М.** Слёзкі Сонца: апавяданні, казкі, смяшынкі: для дзяцей малодшага школьнага ўзросту / Аляксей Якімовіч; [мастак Л. У. Пашчасцева]. — Мінск: Народная асвета, 2014. — 93 с. — 3000 экз. — ISBN 978-985-03-2316-3.

### Тэорыя літаратуры. Вывучэнне літаратуры

**Английская литература:** Средние века — XVII век: учебно-методическое пособие для студентов высших учебных заведений, обучающихся по специальности 1-21 06 01 «Современные иностранные языки» / [Ю. В. Стулов и др.]; под редакцией Ю. В. Стулова; Министерство образования Республики Беларусь, Минский государственный лингвистический университет. — Минск: МГЛУ, 2014. — 131 с. — 100 экз. — ISBN 978-985-460-619-4.

**Битов, А. Г.** Пушкинский том: [статьи] / Андрей Битов; рисунки А. С. Пушкина и Резо Габриадзе. — Москва: АСТ, 2014. — 409 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 3000 экз. — ISBN 978-5-17-084193-6 (АСТ). — ISBN 978-985-18-3538-2 (Харвест) (в пер.).

**XII Горьковские чтения, посвященные 100-летию со дня рождения Я. А. Чернявской:** сборник научных статей / [научный редактор Т. В. Сенькевич]. — Брест: БрГУ, 2014. — 185 с. — 58 экз. — ISBN 978-985-555-236-0.

**Паль, Л. фон.** Проклятие Лермонтова: [тайна рождения, роковая игра с судьбой, предсказанная смерть] / Лин фон Паль. — Москва: АСТ, 2014. — 318 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 2000 экз. — ISBN 978-5-17-086701-1 (АСТ). — ISBN 978-985-18-3435-4 (Харвест) (в пер.).



***Друцк / [О. Н. Левко и др.; научный редактор О. Н. Левко]; Национальная академия наук Беларуси, Институт истории. — Минск: Беларуская навука, 2014. — 617 с. — Часть текста на польском языке. — 300 экз. — ISBN 978-985-08-1735-8 (в пер.).***

*У гэтай калектыўнай манаграфіі падводзяцца вынікі больш як паўстагоддзя гісторыка-археалагічных даследаванняў старажытнага Друцка. На новых матэрыялах разглядаюцца пытанні фарміравання, тэрытарыяльна-планіровачнай структуры Друцка і Друцкага княства, забудова, культавыя і пахавальныя помнікі, асобныя катэгорыі рамёстваў, гандлёвыя сувязі, гаспадарка і побыт. Адметна, што пры напісанні гэтага даследавання айчыннымі навукоўцамі ўпершыню ўводзяцца ва ўжытак многія архіўныя гістарычныя крыніцы, што тычацца землеўладання і радаводу князёў Друцкіх, уладкавання княжацкага двара і ролі роду князёў Друцкіх у грамадска-палітычным жыцці Вялікага Княства Літоўскага.*

### Беларуская літаратура

**Гісторыя беларускай літаратуры XX стагоддзя:** У 4 т. / НАН Беларусі, Аддз-не гуманітар. навук і мастацтваў, Ін-т літ. імя Я. Купалы; [Рэдкал.: У. В. Гніламёдаў і інш.]. — Мн.: Бел. навука, 1999—2014. — ISBN 985-08-0449-1 (у пер.).

Т. 4: [у 3 кн.], кн. 3 / [навуковыя рэдактары: У. В. Гніламёдаў, С. С. Лаўшук]. — 2014. — 1318 с. — 500 экз. — ISBN 978-985-08-1720-4.

**Загурская, А. Л.** Літаратурнае чытанне: рабочы сшытак: 4-ты клас устаноў агульнай сярэдняй адукацыі з рускай мовай навучання: [па новым падручніку] / А. Л. Загурская, Т. А. Няборская. — 3-е выд., перагледжанае і дапоўненае. — Мінск: Пачатковая школа, 2014. — 110 с. — 6000 экз. — ISBN 978-985-565-111-7.



***Шамякін, І. П. Непаўторная вясна: аповесць; Сэрца на далоні: раман / Іван Шамякін. — Мінск: Мастацкая літаратура, 2014. — 524 с. — 31000 экз. — ISBN 978-985-02-1590-1 (у пер.).***

*Іван Шамякін — бадай, адзін з самых любімых пісьменнікаў. Яго аповесці, раманы, апавяданні лёгка чытаюцца, героі адметныя, а сюжэты вострыя. Вось і аповесці, што пабачылі свет у межах серыі «Школьная бібліятэка», не пакінуць раўнадушнымі. Так, дзеянне аповесці «Непаўторная вясна» — першай часткі рамана-пенталогіі «Трывожнае шчасце» — разгортваецца ў 1939 — 1940 гадах. У стасунках маладых герояў твора адлюстраваны лёс пакалення, якое адчула подых вайны. «Сэрца на далоні» — сацыяльны маральна-этычны раман, які ўзнімае тэму памяці падзей Вялікай Айчыннай вайны. Чалавечнасць, спагада, любоў да людзей увасоблены ў вобразе таленавітага доктара Яраша.*

**Каласавіны:** «Зямля — аснова ўсёй Айчыне»: матэрыялы XXVII [г. зн. XXVIII] навуковай канферэнцыі, прысвечанай 90-годдзю выхаду з друку паэмы Якуба Коласа «Новая зямля», 2—3 лістапада 2013 г., Мінск. — Мінск: Ковчег, 2014. — 388 с. — Частка тэксту на рускай мове. — 150 экз. — ISBN 978-985-7086-88-7.

**Танкаўскія чытанні (9; 2014; Мінск).** Дзявятыя Танкаўскія чытанні: (да 100-годдзя ўніверсітэта): матэрыялы міжнароднай навуковай канферэнцыі, г. Мінск, 26 верасня 2014 г. / [рэдкалегія: В. Д. Старычонак (адк. рэд.), І. М. Гоўзіч, Н. В. Заяц]. — Мінск: БДПУ, 2014. — 299 с. — Частка тэксту на рускай мове. — 80 экз. — ISBN 978-985-541-189-6.

## ГЕАГРАФІЯ. БІЯГРАФІІ. ГІСТОРЫЯ

### Краязнаўства

**Буткевич, В. В.** Факультативные занятия «Мое Отечество». Минск — столица Беларуси: 2-й класс: рабочая тетрадь: пособие для учащихся учреждений общего среднего образования с русским языком обучения / В. В. Буткевич, Н. Г. Ванина, О. В. Толкачева. — Минск: Пачатковая школа, 2014. — 79 с. — 3000 экз. — ISBN 978-985-565-053-0.

**Островецкий район** / [редактор: Плыткевич Н. А.; фото: Плыткевич С. М. и др.]. — Минск: Рифтур, 2014. — 32 с. — Часть текста на белорусском языке. — 1200 экз.

**Сэрцам знітаваныя з газетай:** 565-годдзю Лунінца, 75-годдзю Лунінецкага раёна і раённай газеты «Лунінецкія навіны» прысвячаецца / [укладальнік Т. П. Вайцяхоўская]. — Пінск: Пінская рэгіянальная друкарня, 2014. — 198 с. — Частка тэксту на рускай мове. — 200 экз. — ISBN 978-985-6515-34-0 (у пер.).

**Центральный район. Здесь бьется сердце Минска** / [под общей редакцией Э. В. Томильчика, А. А. Маевской ; фото С. М. Плыткевича, А. П. Дрибаса, А. Г. Зельского; текст А. Г. Зельский]. — Минск: Рифтур, 2014. — 127 с. — 1200 экз. — ISBN 978-985-7047-73-4 (в пер.).

### Агульная геаграфія, сістэматычная, тэарэтычная геаграфія

**Общее землеведение:** справочные материалы: [для студентов]: в 3 ч. / Министерство образования Республики Беларусь, Могилевский государственный университет им. А. А. Кулешова. — Могилев: МгГУ, 2011—2014. — ISBN 978-985-480-746-1.

Ч. 3: Хионосфера. Педосфера. Ландшафтная сфера. Биосфера. Антропосфера. Рациональное природопользование. Охрана природы / И. Н. Шарухо, М. Е. Захарова, А. В. Шадраков. — 2014. — 65 с. — 52 экз. — ISBN 978-985-480-979-3.

### Біяграфічныя і падобныя даследаванні

**Заливако, А. С.** Шумские герба «Ястребец» / Александр Заливако. — Минск: Энциклопедикс, 2014. — 181 с. — 140 экз. — ISBN 978-985-7090-28-0 (в пер.).

### Гісторыя

#### Гісторыя Сярэдніх вякоў, новага і найноўшага часу

**Петкун, И. Я.** Всемирная история Новейшего времени: опорные конспекты: для подготовки к централизованному тестированию / И. Я. Петкун. — 2-е изд., переработанное. — Минск: Аверсэв, 2014. — 224 с. — 1500 экз. — ISBN 978-985-19-1372-1.

**Тулинов, В. М.** За честь нации. Евреи против Гитлера / Владимир Тулинов. — Минск: Печенко А. Г., 2014. — 223 с. — 500 экз. — ISBN 978-985-7053-65-0.

#### Гісторыя зарубежных краін

**Грабеньский, В.** История польского народа / В. Грабеньский. — Минск: Полиграфкомбинат им. Я. Коласа, 2014. — 798 с. — 3000 экз. — ISBN 978-985-7056-93-4 (в пер.).

#### Гісторыя Расіі. Гісторыя СССР у цэлым

**Корнилович, Э. А.** Беларусы в Петропавловке / Эдуард Корнилович. — Минск: ФУАинформ, 2014. — 287 с. — 500 экз. — ISBN 978-985-6868-91-0.

**Черемин, А. А.** Касимовское ханство (XV—XVII века) / А. А. Черемин. — Минск: Белорусский Дом печати, 2014. — 142 с. — 1700 экз. — ISBN 978-985-6995-40-1 (в пер.).



***Кабржыцкая, Т. В. Наш і не наш Сяргей Пясецкі: зоркі Радзімы пісьменніка над колам яго жыццёвых і творчых калізій / Т. В. Кабржыцкая, П. В. Рагойша, М. М. Хмяльніцкі; [пад навуковай рэдакцыяй В. П. Рагойшы]. — Мінск: Кнігазбор, 2014. — 211 с. — 115 экз. — ISBN 978-985-7089-83-3.***

*Спадчына польскага пісьменніка Сяргея Пясецкага, які нарадзіўся ў беларускіх Ляхавічах, апошнім часам прыцягвае ўсё больш і больш увагі. Яго раманы, аповесці і апавяданні выдаюцца ў нашай краіне ў перакладзе на рускую і беларускую мову, а асоба самога творцы цікавіць шырокае кола даследчыкаў літаратуры. Кім быў Сяргей Пясецкі? Якія кантэксты раскрываюцца ў яго творах? Дзе мяжа паміж аўтабіяграфічнасцю і выдумкай у яго раманах? Над гэтымі і іншымі пытаннямі разважаюць літаратуразнаўцы ў новай калектыўнай манаграфіі.*

**Шарков, А. В.** Крест Отечества: события и лица Первой мировой войны / А. В. Шарков, В. В. Грозов, Ю. А. Бествицкий. — Минск: Белорусская Православная Церковь (Белорусский Экзархат Московского Патриархата): Международный благотворительный фонд «Семья — единение — Отечество», 2014. — 409 с. — 3000 экз. — ISBN 978-985-511-761-3 (Белорусская Православная Церковь). — ISBN 978-985-7072-09-5 (Международный благотворительный фонд «Семья — единение — Отечество») (в пер.).

**Язов, Д. Т.** Битва под Москвой: рождение полководцев / Дмитрий Язов. — Мозырь: Колор, 2014. — 290 с. — 162 экз. — ISBN 978-985-6830-58-0 (в пер.).

#### Гісторыя Беларусі

**Барацьба супраць германскай агрэсіі на тэрыторыі Беларусі (1941—1944 гг.):** [дапаможнік для курсантаў / Дзяржаўны пагранічны камітэт Рэспублікі Беларусь], Інстытут пагранічнай службы Рэспублікі Беларусь; [аўтар-складальнік: А. І. Буча]. — Мінск: ІПС РБ, 2014. — 113 с. — 30 экз. — ISBN 978-985-7050-54-3.

Быховцев, Н. И. На Волковысском направлении: 22—29 июня 1941 года / Николай Быховцев. — Минск: А. Н. Вараксин, 2014. — 348 с. — 400 экз. — ISBN 978-985-7092-39-0.

**Гісторыя Навагрудка** — з глыбінь вякоў да нашых дзён = История Новогрудка — из глубины веков до наших дней: [да 970-годдзя першага летапіснага ўпамінання пра горад / М. П. Касцюк і інш.; рэдкалегія: М. П. Касцюк (галоўны рэдактар) і інш.]. — Мінск: Белстан, 2014. — 590 с. — Тэкст паралельна на беларускай і рускай мовах. — 1045 экз. — ISBN 978-985-6944-51-5 (у пер.).

**Годун, Д. Н.** Непокоренные...: исторический очерк / Дмитрий Годун. — Несвиж: Несвижская типография, 2014. — 205 с. — 50 экз. — ISBN 978-985-7078-09-7 (в пер.).

**Данилов, И. П.** Западная Беларусь. Пережитые режимы: (записки участника и свидетеля) / Иван Данилов. — Минск: Смэлток, 2014. — 306 с. — 99 экз. — ISBN 978-985-6998-38-9.

**Денисейко, А. И.** Любовь в огне войны / Анатолий Денисейко. — Брест: Альтернатива, 2014. — 167 с. — Часть текста на белорусском языке. — 500 экз. — ISBN 978-985-521-439-8.

**История Беларуси:** пособие для подготовки к централизованному тестированию / под научной редакцией Г. Я. Голенченко, И. И. Богдановича. — 5-е изд., переработанное. — Минск: Аверсэв, 2015. — 448 с. — 4100 экз. — ISBN 978-985-19-1280-9.

**Куфтерин, Э. В.** Великое Княжество Литовское на географических картах: визуальные образы исторической памяти : каталог выставки / Эдуард Куфтерин; [научный редактор Олег Дернович]. — Минск: Экономпресс, 2014. — 68 с. — 150 экз.

**Латыши и белорусы:** вместе сквозь века: сборник научных статей. — Минск : РИВШ, 2014 — ISSN 2312-2188.

Вып. 3 / [редколлегия: Кулик Святослав Павлович и др.]. — 2014. — 75 с. — Часть текста параллельно на белорусском и английском языках. — Часть текста параллельно на английском и русском языках. — 50 экз. — ISBN 978-985-500-774-7.

**Мартинович, М. В.** Великое Княжество Литовское, Русское и Жемайтское : от предпосылок к созданию до Люблинской унии 1569 г. / М. В. Мартинович. — Минск: А. Н. Вараксин, 2014. — 615 с. — 500 экз. — В переплете. — ISBN 978-985-7092-43-7 (ошибоч.).

**Панов, С. В.** История Беларуси: 6—11-е классы: основные даты и события с комментариями / С. В. Панов. — 4-е изд. — Минск: Аверсэв, 2014. — 112 с. — 4100 экз. — ISBN 978-985-19-1327-1.

**Первая мировая война на Беларуси:** сборник докладов II Международной научно-практической конференции, 15 декабря 2013 г. — Брест: БрГТУ, 2013. — 83 с. — Часть текста на белорусском языке. — 60 экз. — ISBN 978-985-493-291-0.

**Рижский мир в судьбе белорусского народа:** 1921—1953 гг.: в 2 кн. / [А. А. Коваленя и др.; редколлегия: А. А. Коваленя (председатель) и др.]; Национальная академия наук Беларуси, Институт истории. — Минск: Беларуская навука, 2014. — 500 экз. — ISBN 978-985-08-1752-5 (в пер.).

Кн. 1. — 591 с. — Часть текста на белорусском языке. — ISBN 978-985-08-1753-2.

Кн. 2. — 333 с. — ISBN 978-985-08-1759-4.

**Россихин, В. П.** Июль сорок четвертого. Освобождение: хронико-документальный очерк: [1944—2014 : к 70-летию освобождения Брестского района] / В. П. Россихин. — Брест: Альтернатива, 2014. — 78 с. — 50 экз. — ISBN 978-985-521-444-2.

**Сохраним память — укрепим будущее** / Гродненская районная женская организация «Надежда» [и др.; составители: Л. В. Кашенкова, О. А. Данилевич; редколлегия: Л. В. Кашенкова, О. А. Данилевич, Н. И. Черкес]. — Мозырь: Белый Ветер, 2014. — 206 с. — Часть текста на белорусском языке. — 163 экз. — ISBN 978-985-542-995-2 (в пер.).

**Стрелец, М. В.** Краткий курс лекций по политической истории Беларуси: для иностранных студентов / [Стрелец М. В., Мощук А. В.]; Министерство образования Республики Беларусь, Брестский государственный технический университет, Кафедра социально-политических и исторических наук. — Брест: БрГТУ, 2013. — 74 с. — 50 экз. — ISBN 978-985-493-299-6.

**Централизованное тестирование. История Беларуси:** полный сборник тестов, [предложенных абитуриентам в 2009—2013 гг.] / Учреждение образования «Республиканский институт контроля знаний» Министерства образования Республики Беларусь. — Минск: Аверсэв, 2014. — 253 с. — 3100 экз. — ISBN 978-985-19-1255-7.

**Чаропко, В.** Геркулес, Рыжий и Перун (Радзивиллы-победители) / Витовт Чаропко. — Минск: Харвест, 2014. — 335 с. — 2000 экз. — ISBN 978-985-18-3365-4 (в пер.).

**Шыбут, С. У.** Вёска Гарбавічы. Старонкі гісторыі: дакументальна-гістарычны нарыс / С. У. Шыбут. — Магілёў: МгДУ, 2014. — 69 с. — 300 экз. — ISBN 978-985-480-987-8.

Аблічча

# Два Уздымачы

**Дарэмна час мы не бавілі. Заўзятая гаворка не спынялася. Першым тралейбусам з Лагойскага тракту я адпраўляўся на свой Паўднёвы Захад. І ўвесь выходны дзень быў напоўнены ўражаннямі ад чарговай сустрэчы з Алесем Пятровічам Траяноўскім. Бо столькі дазнаўся ад «звяздоўскага» загадчыка аддзела літаратуры і мастацтва! І пра кашубаў, і пра верхнялужыцкую, пра ніжнялужыцкую нявымерлыя мовы, і пра затуманеныя ў невядомасці імёны ўкраінскіх творцаў…**



Пётра Сергіевіч у сваёй майстэрні.

Гэта праз 40 гадоў з тае пары можна пералічваць заслугі і дасягненні былога партызана, франтавіка, які не нарываўся на спачуванні з прычыны цяжкога ранення на фронце. Не быў маркотным пустэльнікам, бо ўмеў знаходзіць суразмоўцаў, узбагачаць іх вопытам творчага жыцця паэта, перакладчыка, даследчыка гісторыі, вандроўніка.

Сёлета 22 верасня спаўняецца 90 гадоў з дня нараджэння Алеся Пятровіча Траяноўскага і 10 гадоў з таго часу, як няма між нас Уздымача (Уздымач — назва хутара на Случчыне, дзе нарадзіўся Алесь Пятровіч). Ці стараемся мы пры жыцці добра знаёмага чалавека парадаваць яго сваёй павагай, прызнаннем? Мо і не заўсёды. Прыпазніўся і я. У 2006 годзе, ужо пасля смерці Траяноўскага, выйшла яго кніга «Дні — як лукі». Укладальнік Уладзімір Ягоўдзік змясціў там не толькі перакладзеныя Алесем Пятровічам вершы ўкраінскага паэта Марка Баяслава, але і абразкі, успаміны свайго старэйшага сябра ў раздзеле «Мой Уздымач». Я адзначаў, што ўкладальнік паклапаціўся, каб «шчыры, сардэчны наробак Алеся Пятровіча вярэдзіў нашы душы, напінаў, як цеціву лука, нашы думы і доўжыў памяць пра чалавека-творцу».

Так, Траяноўскі быў сур'ёзным даследчыкам гісторыі і вясёлым вандроўнікам. Ці не ў 1974 годзе ўзрушыў ён Алеся Жука і мяне прапановай наведаць яго сябра ў Вільні — мастака Пётру Сергіевіча. Алесь Пятровіч адкрыў тады для мяне не толькі сталіцу Вялікага Княства нашых продкаў. На машыне мы наведалі Медніцкі замак, саму Вільню, Свіраны, Трокі. Але галоўныя падзеі прайшлі на Антокалі — амаль насупраць палаца Сапегаў.



Фота Сяргея Панізніка.

Каля антокальскага льва — Алесь Жук, Пётра Сергіевіч, Алесь Траяноўскі, пані Станіслава.

Помніца двухпавярховы асабняк з ільвамі на вуліцы Антакальнё, 30. Сустрэлі нас Пётра Аляксандравіч і яго жонка Станіслава. На трох вялізных стэлажах убачылі работы былога вучня Фердынанда Рушчыца. Сергіевіч быў духоўным Уздымачом, актыўным дзеячам беларускага адраджэння ў даваеннай Вільні. А ў 1960 годзе атрымаў званне заслужанага дзеяча мастацтваў Літоўскай ССР.

Алесь Пятровіч — нібы даверaная асоба мастака — не толькі паказваў карціны Алесю Жуку і мне, але і расказваў пра тых асоб, якія натхнялі Сергіевіча. Дазволю сабе маленькі пералік карцін: «Арышт Паўлюка Багрыма», «Кастусь Каліноўскі сярод паўстанцаў 1863 года», «Скарына ў друкарні»… А сам Пётра Аляксандравіч нагадваў назвы сваіх лірычных пейзажаў, паказваў партрэты землякоў з Браслаўшчыны, бо вельмі ж яго цікавіла самабытнасць народнай культуры. Ён узнавіў аблічча сваіх сяброў — Р. Шырмы, М. Машары, М. Забэйды-Суміцкага, Я. Драздовіча… Не забыў і Францішка Багушэвіча.

Пазнавальны «Партрэт жонкі», бо вось яна з намі, сімпатычная пані Станіслава. Уражвала работа «Партрэт Максіма Танка». Сам Яўген Іванавіч высока цаніў творчасць віленскага майстра: «Пётра Сергіевіч — своеасаблівы, з ярка выражаным нацыянальным характарам мастак…».

А спадчына гэтага мастака — 600 палотнаў! У каго яшчэ такі магутны творчы наробак?

Калісьці Мёршчына ўваходзіла ў Браслаўскі павет Віленскага ваяводства. Таму мне як своеасабліваму земляку падарыў дзядзька Пётра некалькі копій сваіх работ. А на развітанне я сфатаграфаваў гасцей і гаспадароў ля таго самага льва, што, як стала вядома пазней, 40 гадоў пільнаваў для Сергіевіча дом № 30 на Антокалі.

Пятра Аляксандравіча, народжанага 10 ліпеня 1900 года ў вёсцы Стаўрова між Браслаўскіх азёр, не стала 1 лістапада 1984 года. Яго апошні прытулак — вайсковыя могілкі на тым жа самым Антокалі-Антакальнісе. Пасля смерці пані Станіславы ніхто не прыняў апеку над жытлом і спадчынай Сергіевіча. Іскрынкі з-пад яго пэндзля маркоціцца ў Польшчы, Літве… У Мінску — у Нацыянальным мастацкім музеі, у Літаратурным музеі Янкі Купалы…

Але хочацца вярнуцца да агнітага начавання ў лесе па дарозе з Мінска ў Вільнюс, калі Алесь Пятровіч Траяноўскі ля пасівелага вуголля «разбудзіў нашы спячыя душы» і «зацвярдзелыя сэрцы ўзрушыў» клічам на зборы (нібыта той Райніс у вершы беларускі-латгалкі Веры Вайцюлевіч). І мне да сённяшняга не верыцца, што мы вярнуліся з Меднікаў, Антокаля, Трокаў, з радзіннай мясціны Францішка Багушэвіча… І што нас не чакае той свойскі леў гаспадароў Станіславы і Пётры…

**Сяргей ПАНІЗНІК**

На паліцы

# Гартаючы старонкі памяці

**Бадай, у кожнага ёсць чалавек, які адыграў вельмі важную ролю ў жыцці. Першы настаўнік і крытык, дарадца і сябра. Або проста сусед, пра існаванне якога мы нават не падазравалі. Ён можа сысці, але памяць у самім сэрцы будзе жыць.**

«Голас далёкай маладосці» — невялікі зборнік паэтэсы Галіны Асіповіч. Здаецца, звычайная кніга вершаў, але калі ўчытацца, усведамляеш, што гэта своеасаблівая вандроўка ў памяці аўтара: кожны твор — кавалак жыцця, успамін. У другой частцы — ключ да ўсёй кнігі — таго самага лёсавызначальнага чалавека. Але пачнём вандроўку з пачатку…

Першы раздзел — «Усміхнуся сонцу» — прысвечаны сыну аўтаркі, каб «ведаў свае карані і не забываў край, дзе нарадзіўся». Тоненькай стужкай уплятаецца тэма памяці.

Вершы і творы, напісаныя ў апошнія гады, закранаюць аспекты жыцця, што ў той ці іншы час хвалявалі аўтара. Шмат пейзажнай лірыкі — карціны родных мясцін паэткі і месцаў, дзе давялося працаваць. Шмат прысвячэнняў родным і знаёмым. У ранніх вершах нават свая філасофія. Здаецца, толькі чатыры радкі, а колькі хацела выказаць аўтар:




*У кветкавым паху,*
*Ў прыціхлай хацінцы*
*Схавана надоўга,*
*Навекі*
*дзяцінства.*

Падобныя кароткія вершы сустракаюцца і надалей.

Праблема сучаснага грамадства закранаецца ў вершы «Сыночку»:

*Я расла на бульбе і цыбулі,*
*Ты ж ясі «картошку», «лук»,*
*Ехала я ў госці да бабулі —*
*«Бабушка» адчыніць на твой стук.*

Так было яшчэ ў 1976-м, так і ў сучаснасці. Гэты верш тлумачыць, чаму першы раздзел прысвечаны сыну.

Блукаць па рыфмах можна бясконца, аднак не вершы з'яўляюцца асновай зборніка. «Дарогамі памяці» — назва другой часткі і адказ на ўсе пытанні. Гэты раздзел — нарыс жыцця Галіны Асіповіч. Дзяцінства, юнацтва, вучоба, першыя крокі ў паэзію… Старонка за старонкай, і мы нарэшце атрымліваем адказ на пастаўленае ў пачатку пытанне. Вось і галоўны чалавек у жыцці Галіны Асіповіч, — Юльян Сергіевіч.

Менавіта ён, паэт Юльян Сергіевіч, адкрыў талент паэтэсы: «Ведаеш, дзяўчынка, нам цяжка ўзмацніць магутную рускую літаратуру, не ведаючы і не шануючы сваёй, беларускай. Але калі захочаш пісаць далей вершы, у цябе будзе час гэта ўсвядоміць». Гэтыя словы і сталі штуршком, каб працягваць пісаць.

Паэтэса цёпла ўспамінае Ю. Сергіевіча: «Мяне не пакідаў погляд яго блакітных вачэй, спагадлівы і цёплы. Быццам ён хацеў сказаць нешта такое, што можа абараніць мяне ад жыццёвых нягод, і ў той жа час сумняваўся: бо і сам быў маладым».

Сярод вершаў знаходзім прысвячэнне Ю. Сергіевічу:

*Пахавалі — значыцца схавалі*
*Ад людзей, ад сонца, ад жыццёвых*
*скрух*
*Васількoвы позірк, спадзяванняў хвалі*
*І святло стамлёных*
*скрыжаваных рук.*

З моманту сустрэчы і да самой смерці ён быў настаўнікам паэтэсы. Цікава, што Ю. Сергіевіч разам з жонкай Агатай прымалі ўдзел у сватанні да Галіны яе будучага мужа.

Маленькія чорна-белыя фотаздымкі з памятныя ад часу краямі — лепшы напамін пра моманты, якія з часам мы пачынаем забываць. У зборніку ёсць і некалькі старонак фотаздымкаў.

**Надзея ТАЧЫЦКАЯ**

# Страчанае вяртаецца

**На адзін дзень Брэст саступіў званне культурнай сталіцы Беларусі старажытнаму Навагрудку: тут адбылася падзея, якую варта лічыць не адзінкавай культурнай акцыяй, але сімвалам вяртання нашай спадчыны на Радзіму.**



Дом-музей Адама Міцкевіча 11 ліпеня ўрачыста адкрыў выстаўку «Прарок свайго часу», асноўным экспанатам якой з'яўляецца копія партрэта Марыі Шыманоўскай мастака Валенсія Ваньковіча. Так аб'ядналіся тры вялікія імёны беларускай культуры. Марыя Шыманоўская, выбітная піяністка свайго часу, знаёмая з вялікімі кампазітарамі, давала канцэрты ў Германіі, Італіі, Англіі, Францыі, Швейцарыі, Польшчы і Расіі, выступала ў каралеўскіх салонах. Валенсій Ваньковіч, мастак, чыё імя апошнім часам гучыць усё часцей, сябраваў з Адамам Міцкевічам. І, натуральна, сам Адам Міцкевіч, зяць Марыі Шыманоўскай (як пажартаваў Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Беларусі ў Францыі Павел Латушка, у госці да Міцкевіча прыехала цешча).

Не меншай увагі заслугоўваюць іншыя экспанаты выстаўкі — 16 арыгінальных гравюр XIX стагоддзя і медальёны з калекцыі Адама Міцкевіча ў Парыжы, прадстаўнікі якога — Анджэй Невяглоўскі, член Савета старэйшын, і Анна Чарноцка, захавальніца мастацкіх калекцый, — сталі шаноўнымі гасцямі імпрэзы. Таксама ў межах выстаўкі дэманструецца карціна «Шлях Міцкевіча» з калекцыі Пасольства Італіі ў Беларусі. Без яе аўтара, мастака Віктара Альшэўскага, не спраўдзілася б сама выстаўка: мена-віта ён стварыў копію працы Валенсія Ваньковіча.

— Вельмі многа копій робіцца ў свеце, але гэты праект незвычайны, — зазначыў мастак. — Адам Міцкевіч — фігура сусветнай велічыні, якая аб'ядноўвае многія краіны, і той, хто не ведае Адама Міцкевіча, не ведае сябе... Культурныя ўстановы Беларусі, якія працуюць на вяртанне нашай спадчыны, працуюць на нашую будучыню.

Працаваў Віктар Альшэўскі ў Парыжы, у музеі Міцкевіча, цягам некалькіх тыдняў і той час лічыць вельмі шчаслівым: у гэтую працу ён уклаў усё сваё ўменне і талент.



Фота Вольгі Насковай.

*Мастак Віктар Альшэўскі і дырэктар Дома-музея Адама Міцкевіча Мікалай Гайба.*

Падрабязна распавёў пра праект Павел Латушка, якога можна лічыць ініцыятарам і натхняльнікам справы:

— Так склаўся лёс Беларусі: шмат пастацяў нашай гісторыі выязджала з беларускай зямлі, шмат гісторыка-культурных каштоўнасцей мы страцілі. Але наш абавязак і, быць можа, наш лёс — вяртаць гэтыя каштоўнасці. Вяртаць можна па-рознаму: набываць на аўкцыёнах, дамаўляцца на дзяржаўным узроўні, рабіць выстаўкі, а таксама — капіраваць творы. Магчыма, гэты праект не самы буйны, але ён вельмі для нас сімвалічны: мы звяртаемся да асобы аднаго з выключных людзей нашай зямлі — Адама Міцкевіча.

Пасол выказаў падзяку спонсару праекта — ААТ «Прыёрбанк», а таксама Гродзенскаму аблвыканкаму і Навагрудскаму райвыканкаму за тое, што яны падтрымалі ідэю Пасольства Беларусі ў Францыі.

А ідэя нарадзілася ў Парыжы, калі Павел Латушка наведваў музей Адама Міцкевіча і пабачыў партрэт Марыі Шыманоўскай. Напачатку копія дэманстравалася ў Мінску, цяпер — у Навагрудку. Ці чакаць наступных крокаў? Так, па словах Паўла Латушкі, ужо разглядалася калекцыя Дома-музея Адама Міцкевіча ў Варшаве, будуць весціся перамовы з літоўскімі партнёрамі.

У адкрыцці выстаўкі бралі ўдзел як прадстаўнікі мясцовых улад — старшыня Навагрудскага райвыканкама Анатоль Маркевіч і першы намеснік начальніка галоўнага ўпраўлення ідэалагічнай работы, культуры і па справах моладзі Гродзенскага аблвыканкама Аляксандр Вярсоцкі, — так і прадстаўнікі Нацыянальнага мастацкага музея, якому і была перададзеная ў дар копія партрэта М. Шыманоўскай. Музей прадстаўлялі Генеральны дырэктар Уладзімір Пракапцоў і загадчык філіяла Дома-музея Ваньковічаў Сяргей Вечар. Таксама сярод гасцей імпрэзы быў намеснік старшыні рады Беларускага фонда культуры Анатоль Бутэвіч.

Дырэктар Дома-музея Адама Міцкевіча Мікалай Гайба сам правёў для гасцей экскурсію, асаблівую ўвагу звярнуўшы на гравюры і медальёны, а таксама кнігі, якія з уласных збораў перадаў у экспазіцыю музея Павел Латушка.

Працягам імпрэзы стаў паказ асобных сцэн са спектакля «Пан Тадэвуш». Мікалай Пінігін, мастацкі кіраўнік Купалаўскага тэатра, адзначыў, што такім чынам яны нібыта вяртаюць паэта на Радзіму. Так, паэму «Пан Тадэвуш» Адам Міцкевіч пісаў у Парыжы, сумуючы па роднай Навагрудчыне («Тугою па табе тут вобраз твой стваraю»), і ў сталіцы Францыі ў мінулым годзе Купалаўскі тэатр паказваў інсцэнізацыю паэмы.

Дэманстраваліся чатыры ўрыўкі, якія можна аднесці да ключавых: першая сцэна, дзе мы бачым яшчэ не пана Тадэвуша, але Паэта, лічы, самога Адама Міцкевіча (Павел Харланчук); дыялог Графа і Гервазія (у некалькіх хвілінах дзеі Раман Падаляка яскрава раскрыў героя); сімвалічны слоўны паядынак між Графам і Тадэвушам — і апошняя сцэна з неўміручым «Літва! Бацькоўскі край...». Адбываўся паказ у галерэі мастака Кастуся Качана.



*На радзіму, у Навагрудак, вярнуліся героі А. Міцкевіча — Пан Тадэвуш (Павел Харланчук) і Граф (Раман Падаляка).*

Ацэньваючы праект, варта глядзець на яго з двух пунктаў погляду. Па-першае, гэта яшчэ адна яркая падзея ў беларуска-французскім супрацоўніцтве (прыгадаем майстар-класы, якія праводзілі французскія тэатралы ў Мінску сёлета). Па-другое, выстаўка «Прарок свайго часу» — прыклад арганізацыі міжнародных культурных сувязяў у рэгіёнах, і прыклад гэты варты самага актыўнага пераймання.

**Наста ГРЫШЧУК**

# Каляровы вальс

**«Святло-Візія» — такую назву атрымала выстаўка нефігуратыўнага мастацтва ў выкананні Віктара Васюкевіча. Экспазіцыя адкрылася ў Літаратурным музеі Максіма Багдановіча.**

Аўтар, адыходзячы ад рэалізму, прапануе гледачам уявіць духоўны свет у выглядзе вольных, экспрэсіўных рознакаляровых мазкоў, кругавароту фарбаў. Карціны «Адзінства», «Нябачны шлях», «Бясконцая натура», «Завіхрэнне», ці «Міраж» — цалкам абстракцыя, якая натхняе на медытацыю.

Віктар Васюкевіч лічыць, што жывапіс — гэта не прытрымліванне канонаў, упісаных у межы пейзажа, нацюрморта ці партрэта, а вольны выбух, палёт фантазіі творцы, матэрыялізаваная музыка. У яго няма першасных і другасных планаў: усё палатно запоўнена і «гучыць».

Працы мастака выклікаюць адчуванне касмічнага, усеабдымнага, таго, што цяжка спасцігнуць розумам. Камусьці яны пададуцца хаатычным «танцам» з адценняў і штрыхоў, а хтосьці ўбачыць Божы сэнс, святло, якое агортвае душу… Колеры на карцінах, між іншым, вельмі цёплыя, прыродныя.

Віктар Васюкевіч працуе і ў рэчышчы класічных жанраў жывапісу, графікі, а яшчэ піша вершы. Падчас вернісажу можна было пачуць некалькі з іх, пазнаёміцца з друкаванай падборкай лірыкі, дзе аўтар пазначыў: «Усё, што ёсць у мяне ва ўнутраным свеце, — гэта Бог».

За апошнія гады мастак зладзіў шэраг персанальных выставак у Мінску (планетарый, Чырвоны касцёл, галерэя «Вільнюс», Інстытут тэалогіі БДУ і інш.), браў удзел у арт-праектах Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі, міжнародным пленэры «Марк Ротка-2011» (Даўгаўпілс, Латвія). Яго творы захоўваюцца ў зборах Музея сучаснага выяўленчага мастацтва, Беларускага музея ў Нью-Ёрку, прыватных калекцыях.

**Марыя ВОЙЦІК**



*«Завіхрэнне».*

Праект — лаўрэат VII Нацыянальнага конкурсу друкаваных СМІ «Залатая Ліцера»

# «Мір, вечны мір!..»

**У чэрвені споўнілася 115 гадоў з дня нараджэння Міхася Забэйды-Суміцкага — выбітнай постаці ў гісторыі беларускага нацыянальнага мастацтва і айчыннай гісторыі.**

Па некаторых дадзеных, вялікі маэстра нарадзіўся ў 1900 годзе ў вёсцы Шэйпічы на Пружаншчыне.

Шкада, многія нават не чулі, што пружанская зямля на пачатку ХХ ст. дала свету спевака, чый тэнар зачароўваў мільёны ў Еўропе, Азіі, Амерыцы. Вядомыя крытыкі ставілі яго поруч са славутымі мэтрамі сусветнага опернага мастацтва — Леанідам Собінавым, Фёдарам Шаляпіным.

Воляю лёсу Міхась Забэйда-Суміцкі ў юнацтве быў назаўжды адарваны ад Беларусі. Спяваў на сямнаццаці мовах свету, але не забыў і родную. Адзінай сувяззю з малой радзімай — адрасаваныя блізкім лісты. У іх — жыццё творцы ў апошнія гады.

**19 красавіка 1979 г.**

«Дарагая пляменніца Маруся! Маё здароўе моцна пагоршылася і таму амаль нікому не адпісваў на навагоднія віншаванні… Зіма ў нас была вельмі лютая, снежная, шкадлівая і для гаспадаркі, і для здароўя… Мне было вельмі дрэнна… Не мог хадзіць. Ратавалі вучні, прыносілі ежу, і, як бачыш, дачакаўся вясны… Я жыву. Як і раней. Толькі хваробы моцна перашкаджаюць… Апрача старых хвароб, прычапілася да мяне цукроўка — сахарны дыябет, а гэта змушае трымаць строгую дыету… Гэта хвароба невылечная… Стараюся трымацца, каб мог яшчэ перадаваць свае мастацтва маладым… Шуміць у галаве… Усім нізка кланяюся і жадаю дабра. Не забывайце… Ваш Міхась Забэйда.

P. S. Набліжаецца маё любімае свята — 1 Мая. Віншую і жадаю правесці весела! г. Прага».

**12 сакавіка 1980 г.**

«Дарагая пляменніца Маруся! Пісьмо тваё атрымаў, шчыра дзякую за памяць. Вельмі рад, што дзеці твае здаровы і прыносяць табе задавальненне. У старасці нішто так не цешыць чалавека, як добрыя дзеці. Мне, на жаль, сям'ёй абзавясціся не ўдалося. Жыццё кідала то туды, то сюды, і так на старасці застаўся сам. Уся мая радасць — гэта людзі, якім спяваў родныя песні… У сумныя хвіліны бачу, што нешта добрае ў жыцці для людзей зрабіў. І на душы становіцца лягчэй… Жыў я, як ведаеш, без бацькі, «як гарох пры дарозе», хто міма ідзе, той і скубне. І так дзіўлюся, што яшчэ жыву. Перажыў дзве праклятыя вайны, халеру і сухоты. І цяпер, калі дазваляюць сілы і здароўе, стараюся перадаць свой вопыт маладым. Сіл становіцца ўсё меней і меней… Але не сумую. У жыцці бывае і горш… Думкі ляцяць далёка назад. Першага чэрвеня, калі дажыву, мне будзе восемдзесят гадоў! Як хутка мінуў час…



Найвялікшае маё жаданне — гэта каб на свеце не было вайны, каб людзі ўмелі дагаварыцца між сабою, каб быў мір, вечны мір! Не забывайце дзядзькі Міхася. Ваш М. Забэйда. г. Прага».

**9 мая 1981 г.**

«Дарагая пляменніца Маруся! Відаць, што мы с табой з аднаго гнязда. Я стараюся пісаць так, каб нікога не пакрыўдзіць… Мяне вельмі радуе, што ёсць людзі, якія хочуць, каб мая праца па пашырэнні роднае песні не прапала… Жыццё чалавека кароткае… Чалавек умірае, але праца застаецца. Пра гэта памятаю ўвесь час. І заўсёды, калі ўдавалася наспяваць нешта на грампласцінкі, пасылаў іх на Радзіму. Гралі іх у Мінскім радыё, людзі рады іх слухаць, і я з гэтага меў радасць… Пасля выступленняў на Радзіме з канцэртамі ў 1963 годзе, калі ўбачыў, колькі радасці яшчэ магу людзям даць, хацеў нават пераехаць у Мінск і там працягваць сваю працу. На жаль, пераезд не здзейсніўся. Цяжкія ўмовы ранейшага жыцця, сіроцтва, дзве вайны, фашысцкая турма і іншыя цяжкасці падарвалі здароўе. А хворым ехаць на новае месца было немагчыма. Але думка быць радзіме карысным мяне не пакінула. І калі што для Радзімы магу зрабіць — зраблю, хоць сілы цяпер маю вельмі мала. Буду старацца паправіцца… Шлю сардэчныя прывітанні Табе і Тваім блізкім. Ваш дзядзька Міхась Забэйда. Не забывайце! г. Прага».

Гэта апошнія лісты творцы, які нарадзіўся разам з дваццатым стагоддзем, і запаветы тым, хто жыве ў дваццаць першым: быць шчырым, любіць людзей, сваю працу, жыццё, не губляць, нягледзячы ні на што, аптымізм.

Шэсць невялікіх лісточкаў паперы, спісаных акуратным, старанна выведзеным почыркам, беражліва захоўваюцца ў фондах музея-сядзібы «Пружанскі палацык».

**Валянціна НІДЗЕЛЬКА**

# Сымон Тургай з вёскі Краснае

**Прататыпам героя трылогіі Якуба Коласа «На ростанях» Сымона Тургая стаў ураджэнец в. Краснае Карэліцкага раёна Якаў Бязмен, які быў добра знаёмы з пісьменнікам і ў 1920-я гады вёў з ім перапіску. Што ж звязвала гэтых людзей?**

Летам 1906 г. у вёсцы Мікалаеўшчына, дзе працаваў у школе мясцовы жыхар Аляксандр Сянкевіч, адбыўся нелегальны з'езд вясковых настаўнікаў з удзелам Канстанціна Міцкевіча (Якуба Коласа), які тады выкладаў у Верхменскім вучылішчы, і настаўніка Бытчанскага вучылішча Івана Фёдарава (будучага дзіцячага пісьменніка Янкі Маўра). Менавіта Якуб Колас «праз верных людзей» перадаў Івану Фёдараву запрашэнне паўдзельнічаць у з'ездзе.

Абмеркавалі праграму Усерасійскага саюза настаўнікаў і пастанавілі прыняць яе, а найбліжэйшай мэтаю вызначылі далучэнне сялянства да актыўнага ўдзелу ў вызваленчым руху. Канчаткова аформіць пратакол вырашылі ў Мікалаеўшчынскай школе. Але не паспелі туды зайсці, як у пакой уварвалася паліцыя. Пасля вобыску разам з іншымі дакументамі канфіскавалі пратакол сходу. Неўзабаве настаўнікі атрымалі апавяшчэнні аб звальненні з працы. Праз некаторы час і тым, хто заняў іх пасады, было прапанавана пакінуць рабочае месца на працягу трох дзён. Гэтыя адозвы ў верасні 1906 г. разаслала «Часовае бюро Мінскай групы настаўнікаў», якое заклікала педагогаў губерніі аб'явіць байкот настаўнікам, што не пакінуць месцы звольненых. А напісаў іх жыхар вёскі Краснае Карэліцкай воласці Якаў Бязмен і адправіў з карэліцкай пошты.

Як сведчаць дакументы, Я. Бязмен нарадзіўся ў сялянскай сям'і. У 1903 г. скончыў Навагрудскія настаўніцкія курсы, выкладаў у Тумілавічах на Барысаўшчыне і меў значны ўплыў на рэвалюцыйнае настаўніцтва Мінскай губерніі, выступаў за яго аб'яднанне. У 1906 г. на Я. Бязмена заведзеная справа, згодна з якой ён абвінавачваўся ў рэвалюцыйнай агітацыі сярод сялян мястэчка Тумілавічы. З 26 сакавіка да 27 чэрвеня настаўнік знаходзіўся пад вартаю ў Барысаўскай турме, але справу спынілі праз недахоп доказаў. Пры вобыску ў яго знайшлі тры лісты, адзін з якіх быў адрасаваны настаўніку Юр'еўскага народнага вучылішча Барысаўскага павета Нічыпару Данейку. У ім Я. Бязмен паведамляў пра намер «…дзе-небудзь пасля вялікадня сабрацца на з'езд, выпрацаваць праграму і арганізаваць пастаянны з'езд настаўнікаў».

І, нарэшце, у лісце ад 15 сакавіка 1906 г. Я. Бязмен пісаў аднаму з адрасатаў: «У нас (Пратасевіч, Богуш, я) намечана сабраць з'езд настаўнікаў, выпрацаваць праграму і скласці арганізацыйны саюз. Запрашальныя адозвы разашлём пасля вялікадня. Перад вялікаднём запрашаем апытальнымі паштоўкамі збіраць матэрыял для з'езда і быць гатовымі прыехаць, калі атрымаюць паведамленне. <…> Неабходнасць арганізавацца мае такое вялізнае значэнне, што мы павінны працаваць не складаючы рук…». Як бачым, Якаў Бязмен быў адным з актыўных арганізатараў нелегальнага з'езда настаўнікаў.

Падчас рэвалюцыі 1905 — 1907 гг. Я. Бязмен заснаваў Карэліцкі валасны камітэт Мінскай акруговай сялянскай арганізацыі пры РСДРП, разам з групай настаўнікаў кіраваў забастоўкай рабочых і сялян у маёнтку графа Храптовіча ў Шчорсах у 1905 г. Паводле ўспамінаў А. Сянкевіча, забастоўка пачалася з таго, што батракі і сяляне не выйшлі на працу. Пан угаворваў, пагражаў, але не дапамагло. У вёску прыслалі эскадрон драгунаў, але ніхто з сялян не ўзяў у рукі ні серп, ні касу. Гэтая забастоўка, як пажар, перакінулася на другія фальваркі і маёнткі Навагрудскага і Мінскага паветаў.

Некаторыя беларускія настаўнікі не толькі бралі ўдзел у аграрным руху, але адначасова вялі палітычную і прафесійную барацьбу, у выніку чаго 9 ліпеня 1906 г. на нелегальным з'ездзе ў Мікалаеўшчыне быў арганізаваны першы прафесійны саюз настаўнікаў. Я. Бязмена тут не было: пасля барысаўскай турмы — строгі нагляд паліцыі. Відаць, баяўся прывесці за сабой шпікаў. Аднак у 1908 г. быў асуджаны разам з Якубам Коласам і прыгавораны да трох гадоў турэмнага зняволення.

Як сведчаць дакументы судовай справы, што захоўваюцца ў Літве, 15 сакавіка 1907 г. паліцыя затрымала 21-гадовага Бязмена ў мястэчку Карэлічы. Падчас вобыску паліцэйскія знайшлі дакументы і лісты, якія сведчылі пра ўдзел былога настаўніка ў працы Карэліцкага валаснога камітэта Мінскай акруговай сялянскай арганізацыі пры РСДРП. Сярод знойдзеных папер — напісаны Бязменам урывак «Праекта арганізацыі забастовачнага камітэта», бланк «апытальнага ліста аб асабістым і маёмасным становішчы сялян», рукапіс пад назваю «Ход павятовых выбараў у Навагрудку» і інш. Паліцыя знайшла запісную кніжку Я. Бязмена з шыфраванымі запісамі, да якіх здолелі падабраць ключ, і даказала, што аўтар мае дачыненне да небяспечных, з іх пункту гледжання, адозваў, якія рассылаліся народным настаўнікам Мінскай губерніі.

У выніку Я. Бязмен трапіў за краты разам з Якубам Коласам. Хаця супраць паэта не было канкрэтных доказаў, пасадзілі яго як небяспечнага для ўлады пісьменніка. Арыштаваны ў сакавіку 1907 г., Я. Бязмен правёў да суда ў мінскай турме паўтара года. Ён падаваў прашэнне выпусціць яго пад грашовы альбо маёмасны заклад, але судовая палата адмовіла ў сувязі з цяжкасцю пакарання, што яму пагражала.

Разам з шыфраванымі запісамі ў блакноце юнака былі народныя песні. Ён цікавіўся жыццём сялянства, пісаў у газеты карэспандэнцыі пра іх становішча. У судовай справе захаваўся ліст да каханай, Кацярыны Арабей, у які ён піша: «Здаровы, але сілы не надта. Пакруцішся хвілін 5 — 10 і задыхаешся ад недахваткі паветра. У параўнанні з іншымі я лепей за ўсіх захаваўся, галоўнае, не паў духам. Надзея на сябе, на свае сілы, прага жыцця і помсты падтрымліваюць мой арганізм». Але гэты ліст не дайшоў да адрасата.

Такім чынам, Якаў Бязмен, настаўнік па прафесіі, узначальваў валасны камітэт сялянскай арганізацыі пры сацыял-дэмакратычнай партыі і адначасова кіраваў мінскім губернскім бюро Усерасійскага саюза настаўнікаў, а працу па настаўніцкім саюзе вёў разам з Якубам Коласам.

Аўтар трылогіі «На ростанях» не забыўся пра Бязмена, які сыграў вялікую ролю ў арганізацыі тайнага настаўніцкага з'езда. Так у творы з'явіўся вобраз Сымона Тургая, пра якога Якуб Колас піша: «Тургая <…> злавілі ў Карэлічах на пошце і загналі ў навагрудскі астрог. Апроч усёй іншай «крамольнай» дзейнасці, Тургаю ставілі ў віну і агітацыю сярод вяскоўцаў, каб яны не хадзілі на работу ў панскія двары, бо ўсе маёнткі павінны належаць народу…».

Звернем увагу на сцэну суда над настаўнікамі.

«Сымон Тургай прызнаўся, што ўваходзіў ва Усерасійскі саюз настаўнікаў і напісаў адозву аб байкоце. Другія ж адозвы пісаў не ён. Таксама пісаў і не Андрэй Лабановіч: усе іншыя адозвы былі напісаны трэцяю асобаю. Гаварыў Тургай смела, упэўнена і пераканаўча.

— Хто ж гэта трэцяя асоба? — запытаўся пракурор.

— Я не сведка на гэтым судзе, а падсудны, — з годнасцю адказаў Тургай і дадаў: — Калі б я і ведаў «трэцюю» асобу, дык закон дае мне права на некаторыя пытанні не адказваць».

Так Андрэй Лабановіч і Сымон Тургай былі асуджаныя на тры гады зняволення і апынуліся ў астрозе ў адной турэмнай камеры. Пасля Тургая адправілі ў навагрудскую турму, адкуль ён павінен быў выйсці на волю. З Андрэем Лабановічам мы таксама развітваемся тады, калі ён пакідае астрог.

У трылогіі Якуб Колас згадвае таксама Івана Фёдарава (Янку Маўра), які паслужыў прататыпам настаўніка Івана Тадорыка. І. Фёдараў пасля звальнення з працы некалькі гадоў пражыў у мястэчку Турэц, дзе ажаніўся з мясцовай настаўніцай Варварай Адамовіч. А вось эпізод твора, дзе Андрэй Лабановіч развітваецца ў турме з Лідай Мураўскай, якая паведамляе яму, што выходзіць замуж, вельмі нагадвае развітанне Якуба Коласа з Аляксандрай Рамановіч (Зотавай), настаўніцай Карэліцкага вышэйшага пачатковага вучылішча, з якой паэт пэўны час вёў перапіску.

**Святлана КОШУР**

# «Талаку» віталі ў Кракаве



На сцэне фестывалю EtnoKrakow — гурт «Талака».

**Міжнародны фальклорны фестываль EtnoKrakow прайшоў у Польшчы. Атрымалася сапраўды грандыёзная падзея: 7 фестывальных дзён, каля 50 канцэртаў, больш як 200 артыстаў з 4 кантынентаў. Адметна, што ў ліку ўдзельнікаў фестывалю быў і гурт «Талака» студэнтаў і выпускнікоў кафедры этналогіі і фальклору Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта культуры і мастацтваў.**

Шырокая фестывальная праграма ўключала выступленні многіх міжнародных зорак этнічнай музыкі з Еўропы, Паўднёвай Амерыкі, Афрыкі і Азіі, танцавальныя майстар-класы і кірмашы музычных інструментаў. Канцэрты праходзілі на некалькіх розных пляцоўках — ад касцёла святой Катарыны, Гарадскога музея інжынерыі да сучасных інтэр'ераў цэнтра «Кракаў», у фармацэ вулічных канцэртаў і камерных выступленняў. Так, задача і місія фестывалю Еўрарадыё (стварыць міжнародную платформу для прадстаўлення і прамоцыі артыстаў, чыя крыніца натхнення — рэгіянальныя і мясцовыя музычныя традыцыі) дапоўнілася імкненнямі арганізатараў фэсту «Скрыжаванне» падрыхтаваць мноства майстар-класаў і стварыць шырокую адукацыйную праграму для знаёмства з этнічнай музыкай і традыцыямі Польшчы ды іншых краін. Такім чынам, можна сцвярджаць, што на цэлы тыдзень Кракаў стаў сапраўдным міжнародным цэнтрам фальклорнай музыкі.



На гляках граюць Аляксандр Масібут і Вячка Красулін.

Што ж паказалі беларускія выступоўцы на фестывальнай пляцоўцы ў Гарадскім музеі інжынерыі? «Талака» прадэманстравала традыцыйныя жаночыя і мужчынскія спевы, сольныя і калектыўныя (акапэльна і пад акампанемент дуды, скрыпкі, барабана), а таксама танцы і гульні. Праграма выступлення ўключала абрадавыя песні, што выконваліся вясной і ўлетку — на Купалле і ў час жніва, а таксама пазаабрадавыя спевы і танцы «Сямёнаўна», «Полька», «Каваль», «Дуда-веселуха». Як распавёў кіраўнік гурта, загадчык кафедры этналогіі і фальклору БДУКіМ Вячаслаў Калацэй, кожны з нумароў, прадстаўленых «Талакой» на фэсце, дэманструе адметныя рысы беларускай традыцыйнай культуры і мае сваю гісторыю. Так, гучалі песні са зборніка вядомага фальклараста Міхала Федароўскага, дударская музыка з рэпертуару трупы Ігната Буйніцкага, выконваліся танцы з калекцыі этнахарэолага Міколы Козенкі. Песня «Вясна на калочку» і мужчынскі спеў «За Сібірам сонца ўсходзіць» былі запісаныя вядомай даследчыцай традыцыйнай культуры беларусаў Зінаідай Мажэйкай.



Вакалісткі Эльвіра Сцельмашук і Марына Шэлег.

Цікава, што студэнты кафедры таксама робяць свой унёсак ва ўзбагачэнне рэпертуару гурта. Да прыкладу, казачая жаночая песня «Ой выйду я» выконваецца «Талакой» толькі некалькі гадоў: яе «прывезла» з Палесся тагачасная студэнтка (цяпер ужо выпускніца) і носьбіт Юлія Сахарчук.

Дарэчы, гурт БДУКіМ не ўпершыню выступаў на сцэне фестывалю. Летась калектыў «Ветах» прадстаўляў нашу краіну ў шведскім Ратвіку, а некалькі гадоў таму выступаў на фестывальных сцэнах нямецкіх Рудольштата і Кёльна, а таксама — харвацкай Апатыі.

**Марына ВЕСЯЛУХА,**
**фота аўтара**

*Кракаў — Мінск*

# Пад ветразем адзінства

**Самарская абласная грамадская арганізацыя (САГА) беларусаў і выхадцаў з Беларусі «Руска-Беларускае Братэрства 2000» адзначыла заўважную дату з дня афіцыйнай рэгістрацыі.**



Фальклорны ансамбль «Вясёлка» Дзіцячай музычнай школы № 7 выконвае беларускую народную песню «Цячэ вада ў ярок».

«Нам 15 гадоў!» — пад такім дэвізам ладзяцца сёлета ўсе мерапрыемствы самарскіх беларусаў. Прайшлі адборачныя туры XII Абласнога беларускага дзіцяча-юнацкага фестывалю-конкурсу руска-беларускага мастацтва «Адзінства». Сёлета творчы форум быў прысвечаны 70-годдзю Вялікай Перамогі, а яшчэ — 100-годдзю з дня нараджэння Канстанціна Сіманава. Арганізатары фэсту ўключылі ў праграму Гала-канцэрта творы вядомага паэта (у ліпені сорак першага ён быў сярод воінаў, якія гераічна змагаліся пад Магілёвам).

Гала-канцэрт адбыўся ў Самарскім цэнтры мастацтваў «Перамога». Удзельнікаў, гасцей і арганізатараў фэсту «Адзінства» павіншавалі Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Рэспублікі Беларусь у Расійскай Федэрацыі Ігар Петрышэнка, кіраўнік аддзялення Пасольства Беларусі ва Уфе Дзяніс Цімохін, дырэктар Рэспубліканскага цэнтра нацыянальных культур Рэспублікі Беларусь Міхаіл Рыбакоў... У адрас творчага форуму прыйшло прывітанне ад міністра культуры Самарскай вобласці Вольгі Рыбаковай. З чарговым святам мастацтва самарскіх беларусаў павіншавалі беларускія арганізацыі з рэгіёнаў Расіі і нацыянальныя аб'яднанні Самарскай вобласці.

Шмат цёплых і шчырых слоў было выказана і на адрас арганізатара гэтага свята, прэзідэнта САГА «Руска-Беларускае Братэрства 2000» Ірыны Глускай, якая зазначыла:

— Гэтым разам падчас фестывалю «Адзінства» мы надалі ўвагу не толькі адраджэнню, захаванню і папулярызацыі культуры братэрскіх народаў Беларусі і Расіі, але з дапамогай мастацтва паказалі сусветнае значэнне Вялікай Перамогі. Кожны нумар фэсту скіраваны на фарміраванне ў малодых глыбіннай памяці пра падзеі вайны і яе ўдзельнікаў.

Эмацыянальным атрымалася кожнае выступленне юных артыстаў падчас гала-канцэрта: А. Марухава з Самарскага абласнога вучылішча культуры і мастацтваў, П. Ягоравай з Цэнтра пазашкольнай адукацыі «Творчасць», ансамбля народнага танца «Натхненне» школы № 36 гарадской акругі Самара. Гран-пры фестывалю прысуджана В. Кузняцовай з ЦПА «Творчасць» за песню «Балада пра маці».

**Мікалай БОЙКА**

# Белавежскі скансен

Больш як 20 другакурснікаў гістарычнага факультэта Белдзяржуніверсітэта пачалі да археалагічныя раскопкі ў Белавежскай пушчы. Гэта першыя сумесныя пошукі супрацоўнікаў Інстытута гісторыі Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі, студэнтаў БДУ і Брэсцкага дзяржаўнага ўніверсітэта імя А. С. Пушкіна.

Падчас сёлетняй практыкі хлопцы і дзяўчаты даследуюць кожны лапік запаведніка, бо Нацыянальны парк «Белавежская пушча» захоўвае шмат таямніц і «дорыць» эксклюзіўных артэфактаў жалезнага і каменнага вякоў. У найбліжэйшай будучыні ў пойме ракі Лясная і непадалёк ад вёскі Каменюкі, на месцы сённяшніх буйнамаштабных раскопак, плануецца ўзвесці музей пад адкрытым небам (скансен). Мяркуецца ўзнавіць гарадзішча жалезнага веку, валы, умацаванні, зрабіць рэканструкцыю першабытных стаянак чалавека.

Перадусім тут будуць знаёміць з матэрыяльнай культурай. Знаходкі дапамогуць уявіць побыт людзей, якія жылі на гэтай тэрыторыі больш як 10 тысячагоддзяў таму. Ужо знойдзены фрагменты керамікі і нуклеусаў (аскепкі каменя), характэрных для позняга мезаліту — ранняга неаліту.

Дарэчы, падобныя археалагічныя музеі пад адкрытым небам існуюць у многіх краінах. Так, на тэрыторыі археалагічнага парку Сэнт-Уотч у Маямі (ЗША) наведвальнікі не толькі знаёмяцца з узноўленым індзейскім паселішчам, але могуць і самі паўдзельнічаць у археалагічных раскопках.

**Міра ІЎКОВІЧ**

Заканчэнне. Пачатак на стар. 1.

# Галактыка «Славянскага базару»

Першым у гэтым годзе выйшаў на сцэну Летняга амфітэатра артыст і вядучы папулярных тэлевізійных праграм Аляксандр Алешка. У праграме «Парад усмешак» прагучалі і вершы, і старыя добрыя песні, быў гумар, і адчуваліся ноткі суму. Велізарную колькасць выдатных песень можна было пачуць на творчым вечары народнай артысткі СССР кампазітара Аляксандры Пахмутавай і лаўрэата Дзяржаўнай прэміі СССР паэта Мікалая Дабранравава «Нам не жыць адзін без аднаго». Як старых сяброў, сустрэлі гледачы Летняга амфітэатра Нацыянальны акадэмічны канцэртны аркестр Беларусі пад кіраўніцтвам народнага артыста краіны, прафесара Міхаіла Фінберга. Падчас канцэрта «Песня застаецца з чалавекам» гасцямі гэтага калектыву сталі мэтры эстрады Леў Лешчанка, Рэнат Ібрагімаў, Тамара Гвердцытэлі і іншыя выбітныя артысты.

У Дзень Саюзнай дзяржавы на «Славянскім базары ў Віцебску» Дзяржаўны сакратар Саюзнай дзяржавы Рыгор Рапота па традыцыі ўручыў дыпломы і спецыяльныя прызы Пастаяннага камітэта Саюзнай дзяржавы «За творчае ўвасабленне ідэй дружбы народаў Беларусі і Расіі», якімі ў гэтым годзе ўганараваныя: спявак і кампазітар, заслужаны артыст Расійскай Федэрацыі Леанід Агуцін, старшыня Белтэлерадыёкампаніі, заслужаны артыст Рэспублікі Беларусь Генадзь Давыдзька, генеральны дырэктар БелТА Дзмітрый Жук, генеральны дырэктар «Российской газеты» Павел Нягоіца.

Сезон начных свят адкрыў канцэрт «Залаты хіт: учора, сёння, заўтра». Не давалі сумаваць віцяблянам і гасцям горада Аляксандр Рыбак, Іна Афанасьева, Наталі і Аляксей Астудзін, Inna, Bosson, групы «На-На», «MBAND» і многія іншыя. Начную эстафесту падтрымала група «Рукі ўверх». Квіткі на канцэрт "Europa Plus TV LIVE" раскупілі задоўга да пачатку фестывалю. І чаканні гледачоў спраўдзіліся! На сцэне Летняга амфітэатра выступалі топавыя выканаўцы, чые песні знаходзяцца ў хіт-парадах на радыё і ТБ: Ягор Крыд, Міця Фамін, Сяргей Лазараў, Нюша, Бігбэта, групы «Morandi», «Піца», «Маякоўскі», «Героі» і інш.

Акрамя адзначаных канцэртаў, на «Славянскім базары ў Віцебску — 2015» прайшлі сольныя выступленні Валерыя Меладзэ, Ірыны Алегравай, Валерыі, групы «БІ-2»...

## ЗОРНЫ ЧАС

У спіс найпапулярнейшых мерапрыемстваў трапіў і XXIV Міжнародны конкурс выканаўцаў эстраднай песні «Віцебск — 2015». Маладыя зоркі атрымалі добрую магчымасць заявіць пра сябе на поўны голас, прадэманстраваць вакальныя і артыстычныя дадзеныя.

Гран-пры, а таксама спецыяльны прыз «Ліра» заваяваў спявак з Казахстана Дзімаш Кудайберген. Пачынаючы з паўфіналу конкурсу, малады выканаўца быў адзначаны як відавочны фаварыт і па выніках двух дзён набраў найбольшую колькасць балаў — 175.

— Узровень усіх канкурсантаў даволі высокі, многія па балах былі побач. Агульны недахоп — думаць, што чым гучней, тым лепш, — адзначыў старшыня журы Міжнароднага конкурсу выканаўцаў эстраднай песні «Віцебск — 2015» Палад Бюль-Бюль аглы. — Але ёсць такое паняцце — «гуказдабыванне». З гэтых пазіцый мы судзілі. Казахскі ўдзельнік стаў лідарам — у яго тры галасы ў адным: альціна — вельмі рэдкі голас (і Дзімаш вельмі прафесійна ім карыстаецца), нізкі і сярэдні тэмбр.

Першая прэмія, спецпрыз і дыплом лаўрэата прысуджаны нашай землячцы Валерыі Грыбусавай. Разам з расіянкай Соф'яй Муратавай яны сталі ўладальніцамі спецыяльнага прыза Парламенцкага сходу Саюза Беларусі і Расіі. Другую прэмію атрымаў Мікалай Манолаў з Балгарыі. Прадстаўніца Украіны Ганна Цвердаступ (Аніт) і Сафі з Грузіі ўдастоеныя трэцяй прэміі. А ўдзельніца з Македоніі Надзея Талеўска адзначана спецыяльнай прэміяй імя Уладзіміра Мулявіна за лепшае ўвасабленне нацыянальнай тэмы і высокае выканальніцкае майстэрства.

Відовішчным і багатым на сюрпрызы быў XIII Міжнародны дзіцячы музычны конкурс «Віцебск — 2015». Судзейская калегія працавала пад старшынствам народнага артыста Расіі, кампазітара, піяніста, прадзюсара Дзмітрыя Малікава.

Дыплом уладальніка Гран-пры і грашовы прыз атрымала Луіза Нуркуатава з Казахстана. Першая прэмія, спецпрыз і дыплом лаўрэата прысуджаны Дарыне Галіцкай з Украіны. Другую прэмію атрымалі беларуска Стэфанія Сакалова і Лізі з Грузіі. Прадстаўніцы Расіі і Украіны Вераніка Усцімава і Дар'я Пышная адзначаны трэцяй прэміяй. Юныя выканаўцы Саюзнай дзяржавы таксама атрымалі спецыяльныя прызы ад Парламенцкага сходу Саюза Беларусі і Расіі. Падарункі саюзных парламентарыяў — у Элецці (Беларусь) і Соф'і Лапуховай (Расія).

## ДЗЕНЬ МОЛАДЗІ

Сёлета ён распачаўся парадам моладзевых субкультур «Беларусь у сэрцы маім!». Маляўнічае шэсце прэзентавалі прадстаўнікі таленавітых юнакоў і дзяўчат з усіх рэгіёнаў Беларусі, запрошаныя госці з блізкага і далёкага замежжа, прадстаўнікі розных нацыянальных культур і інш. Адбылася патрыятычная акцыя «Мы памятаем і ганарымся!», падчас якой на плошчы Перамогі прайшла цырымонія ўскладання кветак і вянкоў да мемарыяльнага комплексу ў гонар савецкіх воінаў-вызваліцеляў, партызан і падпольшчыкаў Віцебшчыны.

У конкурснай праграме фіналу моладзевага фестывалю «Агонь танца — 2015» у намінацыях «Шоу-праграма», «Брэйк», «Лаціна», «Стрыт дэнс», «Усходні танец» узялі ўдзел пераможцы адборачных тураў, а таксама вядучыя танцавальныя пары і творчыя калектывы краіны — пераможцы розных танцавальных чэмпіянатаў і конкурсаў. Таксама адбыліся АўтаМотафэст, конкурс бармэнаў «Мабільная кавярня», конкурс 3D-малюнкаў.

У Год моладзі ўпершыню ў межах мерапрыемстваў Дня моладзі разгарнулася маштабная разнапланавая інтэрактыўная экспазіцыя «Моладзевы падворак». На пляцоўках-прэзентацыях ад кожнай вобласці і Мінска арганізавалі выстаўкі страў нацыянальнай кухні з правядзеннем майстар-класаў па іх падрыхтоўцы, дэгустацыі. Таксама на кожным падворку прайшлі выстаўкі і майстар-класы маладых майстроў народных промыслаў, характэрных для кожнага рэгіёна Беларусі.

У вячэрняй праграме Дня моладзі — бітва ды-джэяў, арганізаваная радыёстанцыяй «Пілот-FM». Удзельнікамі вялікай танцавальнай вечарыны сталі лепшыя ды-джэі Беларусі — пераможцы рэгіянальных адборачных тураў праекта.

## НА СЯМІ ВЯТРАХ

«Славянскі базар у Віцебску» нездарма называецца фестывалем мастацтваў. У святочныя дні гэта пацвярджаюць мноства культурных мерапрыемстваў, вулічныя мастакі і музыкі, Горад майстроў. Удзельнікі фэсту вулічнага мастацтва «На сямі вятрах» прыклалі шмат намаганняў, каб фестывальны горад уяўляў сабой культурны цэнтр не толькі краіны, але і свету.



*Уладальнік Гран-пры XXIV Міжнароднага конкурсу выканаўцаў эстраднай песні «Віцебск — 2015» Дзімаш Кудайберген.*

Так, форум дадаў у рознакаляровую карціну святочнага Віцебска незвычайныя адценні. Фантазіі вулічным артыстам не займаць: яны размалявалі Пушкінскі мост у колер неба. Віцебскі моладзевы тэатр «Кола» паказаў вулічны спектакль «Змяркание. Гукі. Цені... Чамадан». Беларускі тэатр «Лялька» прадставіў на «Лялечным квартале», які з мінулага года прапісаўся на «Славянскім базары ў Віцебску», два свае лепшыя спектаклі: «Брэменскія музыкі» і «Папялушка, або Крыштальныя туфлікі».

Стала добрай традыцыяй падчас Міжнароднага фестывалю мастацтваў праводзіць свята народных рамёстваў і мастацтваў «Задзвінскі кірмаш». Такім чынам працягваецца адраджэнне, захаванне і развіццё традыцый у галіне дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва, выяўляюцца таленавітыя майстры. На свяце былі прадстаўлены вырабы з саломкі, лазы, бяросты, дрэва, гліны, скуры, вышыўка, лапікавае шыццё, ткацтва, лялькі. Працавалі «Беларускі фальварак», «Літоўскі падворак», «Валагодскі падворак».

У палітры фестывальных падзей насычанымі атрымаліся «Тэатральныя сустрэчы», а таксама разнастайныя выстаўкі.

## ЗАЛАТАЯ ВАЛОШКА

Сёлета на «Алеі зорак» у Віцебску адбылося адкрыццё іменной зоркі народнага артыста Азербайджана, спевака і кампазітара Палада Бюль-Бюль аглы. У гэтым годзе маэстра не толькі ўзначаліў журы Міжнароднага конкурсу выканаўцаў эстраднай песні «Віцебск — 2015», але і быў адзначаны Кіраўніком дзяржавы.

Падчас урачыстай цырымоніі закрыцця «Славянскага базару ў Віцебску — 2015» Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка ўручыў Паладу Бюль-Бюль аглы спецыяльную ўзнагароду «Праз мастацтва — да міру і ўзаемаразумення». Акрамя таго, спецыяльным прызам Прэзідэнта Беларусі «За яркае выкананне песень славянскіх народаў» узнагароджана ўдзельніца XXIV Міжнароднага конкурсу выканаўцаў эстраднай песні «Віцебск — 2015» Ганна Цвердаступ (Украіна).

Як адзначыў Кіраўнік дзяржавы падчас урачыстай цырымоніі закрыцця «Славянскага базару ў Віцебску — 2015», фестываль называюць летняй культурнай Алімпіядай. Ён ужо зарэкамендаваў сябе як месца, дзе музыканты, мастакі, артысты і знаўцы мастацтва знаёмяцца з новымі тэндэнцыямі і творчымі знаходкамі з усіх канцоў зямнога шара.

Сёлетні фэст надоўга запомніцца багаццем ідэй, радасцю сустрэч і выключна разнастайнай праграмай.



*Фота БелТА.*

*Фестываль вулічнага мастацтва «На сямі вятрах».*

**Таццяна ШЫМУК**

**Выходзіць з 1932 года**
**У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў**

**Заснавальнікі:**
**Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, грамадскае аб'яднанне «Саюз пісьменнікаў Беларусі», рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом "Звязда"»**

**Галоўны рэдактар Таццяна Мікалаеўна СІВЕЦ**



**Адрас рэдакцыі:**
**Юрыдычны адрас:**
220013, Мінск,
вул. Б. Хмяльніцкага, 10-а
E-mail: info@zvyazda.minsk.by

**Адрас для карэспандэнцыі:**
220013 Мінск, пр. Незалежнасці, 77
E-mail: lim_new@mail.ru
Адрас у інтэрнэце: www.lim.by

**Тэлефоны:**
галоўны рэдактар — 292-20-51
намеснік галоўнага рэдактара — 287-17-98
адказны сакратар — 292-20-51
аддзел крытыкі і бібліяграфіі — 292-56-53
аддзел прозы і паэзіі — 292-56-53
аддзел мастацтва — 292-20-51
аддзел «Кніжны свет» — 292-56-53
бухгалтэрыя — 287-18-14

Тэл./факс — 292-20-51

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.

**Падпісныя індэксы:**
63856 — індывідуальны;
63815 — індывідуальны льготны для настаўнікаў;
638562 — ведамасны;
63880 — ведамасны льготны.

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі № 7 ад 10.12.2012, выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь.

**Выдавец:**
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом "Звязда"».
Дырэктар — галоўны рэдактар Аляксандр Мікалаевіч КАРЛЮКЕВІЧ

Тэхнічны рэдактар, камп'ютарная вёрстка: А. В. Бізункова

Камп'ютарны набор: Г. Я. Палякова

Стыльрэдактар: Н. А. Святлова

Нумар падпісаны ў друк 16.07.2015 у 11.00

Ум. друк.11 арк. 3,72

Наклад — 2029.

Кошт у розніцу — 3900 рублёў

**Адкрытае акцыянернае таварыства «Чырвоная зорка»**
ЛП № 02330/99 ад 14.04.2014
Зав. 1-ы Загарадны, 3,
220073, Мінск.

Заказ — 1480 г.

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12